*Сёння – апошні дзень падпіскі на «Народную Волю» на май.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 33 (4285)**

24 красавіка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

«Народная Воля»
в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



ПАЛЕМІКА

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ

## Як «Клуб рэдактараў» выносіць беларусам мозг

*Заўсёднікі прапагандысцкай перадачы БТ выглядаюць песнярамі паліцэйшчыны і кепска ведаюць Канстытуцыю ўласнай краіны*

Амаль што не гляджу БТ (берагу сваё псіхічнае здароўе), але тут падказалі, што ў мінулую пятніцу ў “Клубе рэдактараў” на тэлеканале “Беларусь 1” паны ў студыі патапталіся па маім артыкуле, падрыхтаваным спецыяльна для “Народнай Волі” і надрукаваным 18 красавіка. Адмыслова паглядзеў запіс выпуску. Слухайце, якая дэмагогія! Нахабна падмяняюць тэзы, тэму дыскусіі, прыпісваюць апаненту тое, чаго ён не заяўляў, і потым бамбуюць за гэта прыпісанае.

Увогуле я напісаў у “Народнай Волі” пра тое, што папраўкі ў закон аб СМІ, на мой погляд, кепскія, што не варта гнаць коней, а трэба арганізаваць сапраўднае грамадскае абмеркаванне. З мяне ж зрабілі дэструктыўнага элемента. Сённяшні галоўны рэдактар “Советской Белоруссии” **Дзмітрый Жук** заявіў, што мара Класкоўскага – масавыя забурэнні. А кіраўнік “Сельской газеты” **Сяргей Міховіч** – што для такіх, як я, чым горай, тым лепей.

Былы ж старшыня Белтэлерадыёкампаніі, а цяпер лідар праўладнай “Белай Русі” **Генадзь Давыдзька** рытарычна спытаўся: а з якой гэта ласкі дзяржава ўвогуле павінна “цацкацца” з масавымі пратэстамі?

Што ж, хоць не я навязваю гэту тэму (і ўвогуле не аднойчы заяўляў у сваіх каментарыях, што не з’яўляюся прыхільнікам рэвалюцый, гвалту), але калі ўжо на тое, то патлумачу.

Дзяржава, пан Давыдзька, мусіць цацкацца з грамадзянамі, у тым ліку абуранымі, таму, што дзяржава – гэта не святая карова, гэта толькі апарат чыноўнікаў, а вось шматтысячныя маніфестацыі – гэта народ. Чыноўнікаў і сам кіраўнік дзяржавы мяняе як пальчаткі. Сёння вы надзімаецеся ад важнасці, а заўтра можаце, як кажа прэзідэнт, з мятлой пайсці. Народ жа, паводле нашай Канстытуцыі, з’яўляецца адзінай крыніцай дзяржаўнай улады ў Беларусі. Яе грамадзянам Асноўны закон гарантуе свабоду мірных сходаў, мітынгаў, шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання.

Падобнае запісана і ў канстытуцыях іншых краін. І калі аўтарытарная ўлада доўга ігнаруе правы ды свабоды грамадзян, то можа адбыцца тое, што мы бачылі ва Украіне падчас майданаў або ў гэтыя дні ў Арменіі, дзе супраць упартага чапляння за ўладу абрыдлага дзеяча выйшлі пратэставаць сотні тысяч – і ўрэшце дамагліся, што прэм’ер **Серж Саргсян** падаў у адстаўку. Хто не цацкаецца з народам, а робіць стаўку на дручок, той моцна рызыкуе калі-небудзь нарвацца.

Так што хада вашых думак, пан Давыдзька, няправільная. Не на мове застрашвання і дручкоў трэба з народам размаўляць. Наадварот, варта было б дэмакратызаваць закон аб масавых мерапрыемствах, а не абкладаць іх ініцыятараў чырвонымі сцяжкамі з усіх бакоў, як гэта робіцца ў нас.

Яшчэ важней дэмакратызаваць Выбарчы кодэкс, вярнуць празрыстыя канкурэнтныя выбары, бо народ выходзіць на вуліцы найчасцей там, дзе няма магчымасці змяніць уладу праз электаральны механізм. Ён жа ў нас даўно заблакіраваны ржавым ломам. Смеху варта, што баяцца прапісаць у законе ці пастанове Цэнтрвыбаркама, каб пры падліку галасоў паказваўся кожны бюлетэнь, як гэта даўно робіцца нават у адсталых краінах Афрыкі.

Дык вось, пан Жук, я не мару пра забурэнні, я абедзвюма рукамі за мірную трансфармацыю Беларусі. Але, каб не было рэвалюцый, трэба ладзіць даўно наспелыя рэформы і ў эканоміцы, і ў палітыцы, і ў медыйнай сферы таксама. Іншая рэч, што тады дзяржаўным медыямонстрам не застанецца месца, яны прайграюць канкурэнцыю на сумленным медыйным рынку. Яны ўжо сёння прайграюць незалежным рэсурсам у Сеціве, таму чыноўнікі і хочуць гэтыя рэсурсы закілзаць папраўкамі ў закон аб СМІ.

Праўда, яшчэ адзін удзельнік “Клуба рэдактараў” – кіраўнік тэлеканала СТБ, былы першы намеснік міністра інфармацыі **Ігар Луцкі** запэўніваў, што папраўкі – мяккія. Але ж я ставіў пытанне больш прынцыпова: чаму ў дэмакратычных краінах (той жа суседняй Польшчы) няма рэгістрацыі нават друкаваных СМІ (хочаш – бяры і выпускай), а ў нас гэты бюракратычны фільтр з мноствам надуманых умоў (мець статус юрыдычнай асобы, рэдактару – пяць гадоў кіроўнага стажу ў СМІ) зараз хочуць накінуць і інтэрнэт-рэсурсам? Чаму мы рухаемся не следам за развітымі краінамі, а ў процілеглы бок?

Чыноўнікі цвердзяць: гарманізуем заканадаўства ў межах ЕАЭС. Брава, знайшлі светачаў дэмакратыі: Казахстан, дзе інтэрнэт заціснуты ў разы мацней, чым у нас; Расію, улады якой цяпер тупа ваююць з месенджарам Telegram, валячы мноства ні ў чым не вінаватых сайтаў ды веб-сэрвісаў. Чаму беларускія ўлады, ківаючы на сусветны досвед, бяруць з яго толькі самы жорсткі інструментарый?

Яшчэ было пацешна, калі паны ў студыі сталі палохаць народ, што калі медыі стануць прыватнымі, як хоча Класкоўскі (хоць я казаў пра раздзяржаўленне, а гэта не адно і тое ж), то давядзецца ўводзіць на іх новы падатак (як у гнілой Брытаніі на Бі-Бі-Сі). Што з’явіцца яшчэ адзін радок у жыроўках няшчасных бабулек.

Во як: страшаць падаткам на Бі-Бі-Сі (гэта, між іншым, не прыватная, а грамадская медыйная арганізацыя), але маўчаць, колькі ў нас ідзе з бюджэту на дзяржаўныя СМІ. Дык Бі-Бі-Сі ж якасны прадукт дае, а яны? “Продукт вторичный”, калі згадаць антыўтопію Вайновіча.

У заходніх краінах вядзе рэй менавіта грамадскае тэлебачанне, на якім пануе плюралізм меркаванняў, вытрымліваюцца салідныя эфірныя квоты для апазіцыі. Дзе такое ТБ у нас? Няма і напамінку. На Бі-Бі-Сі даюць узважаную інфармацыю і збалансаваныя каментарыі, а не гоняць прапагандос і хлусню. Вось вы кажаце, што трэба ліквідаваць ананімнасць у Сеціве, каб змагацца з фэйкамі і паклёпамі. А хто адкажа за леташнія пасквілі ў дзяржСМІ супраць фігурантаў справы “Белага легіёна”, якая потым ганебна рассыпалася?

Між тым у нас няшчасным бюджэтнікам выкручваюць рукі, каб падпісваліся на дзяржаўную прэсу. Пры гэтым пан Жук у адным з выпускаў той самай перадачы заявіў: калі “дзяржава прасоўвае менавіта свае выданні”, то гэта нармальна, “людзям, нанятым на працу дзяржавай, карысна чытаць дзяржаўную прэсу”.

Карацей, калі вас гвалтуюць прымусовай падпіскай, расслабцеся і атрымлівайце задавальненне. Вы ж, як любяць паўтараць беларускія чыноўнікі, “государевы люди”.

Панове, ачухайцеся! На двары трэцяе тысячагоддзе, калі дзяржаўная прэса – анахранізм. У большасці дэмакратычных краін яе ўвогуле няма. Прайшоў час бальшавіцкіх “органаў”. Забудзьцеся на зазубраную некалі працу Леніна “Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура”. Лепей, зноў жа, зазірніце ў Канстытуцыю, якая забараняе манапалізацыю СМІ дзяржавай.

Што ж да народных грошай, то, калі вы надта сціплыя, скажу за вас: у сёлетнім рэспубліканскім бюджэце на дзяржаўныя СМІ выдзелена 112,9 млн рублёў (значна болей, чым летась: дзе ж ваша самаакупнасць?). І гэта без уліку той падтрымкі, што ідзе з мясцовых бюджэтаў рэгіянальным медыям, а з бюджэтаў міністэрстваў – ведамаснаму друку. У ліку тых, хто атрымлівае казённае фінансаванне, фігуруе і рэдакцыя “Советской Белоруссии”. Бедненькія… Пры гэтым недзяржаўныя медыі з бюджэту не атрымліваюць ні капейкі. Вось вам і дэклараваныя той жа Канстытуцыяй роўныя ўмовы для развіцця ўсіх форм уласнасці. Як у Оруэла: ёсць роўныя і ёсць раўнейшыя.

Зрэшты, недзяржаўная прэса і не лезе да казённага карыта. Адно пажаданне: каб не душылі, далі нармальна працаваць. Але ж душаць, у тым ліку і драконаўскімі папраўкамі ў закон аб СМІ. Гэта ўжо не першая іх нізка, закону цішком зрабілі рэпрэсіўны апгрэйд напрыканцы 2014 года. Ужо тады Мінінфарм атрымаў паўнамоцтвы блакіраваць сайты без папярэджання і без суда. Цяпер хочуць душыць ямчэй.

У сваім папярэднім артыкуле я зважаў менавіта на тое, што **пазасудовы** парадак блакіравання веб-рэсурсаў не адпавядае прынцыпам прававой дзяржавы (калі вы ўжо такія дзяржаўнікі), заклікаў да шырокага грамадскага абмеркавання новай рэдакцыі закона аб СМІ. Але ж праект ужо пракруцілі праз Палату прадстаўнікоў у першым чытанні, праігнараваўшы прапановы Беларускай асацыяцыі журналістаў, дэпутата **Ганны Канапацкай**. Мала шанцаў, што іх прынцыповыя заўвагі будуць улічаны пры другім чытанні, якое не прадугледжвае канцэптуальных правак. Што ж вы наконт гэтага маўчыцё, як мыла з’еўшы?

Увогуле такое ўражанне, што заўсёднікі “Клуба рэдактараў” не ведаюць нават жыцця суседніх краін ЕС. Давыдзька даводзіў: у нас жа і нумар мабільнага па пашпарце даюць, так што няма нічога страшнага і ў ідэнтыфікацыі інтэрнэт-каментатараў. Ды выедзьце вы хоць у Вільнюс: там сімку купіце ў любым шапіку без аніякага пашпарта. І неяк жа не развалілася літоўская дзяржава. А пан Жук праводзіў думку, што за намі і так могуць няспынна сачыць: праз тыя ж мабільнікі, плацежныя карткі, таму, маўляў, калі сачэння дадасца – такой бяды. Карацей, перадача ператварылася ў апафеоз паліцэйскай дзяржавы.

Так, ва ўсім свеце спецслужбы маюць пэўныя паўнамоцтвы, інструменты і прававыя падставы для сачэння, каб змагацца з тэрарызмам, напрыклад. Але ж у дэмакратычных краінах спецслужбы пастаўлены пад моцны грамадзянскі кантроль, у нас жа гэтага і блізка няма (пра што вялікае начальства кажа нават з гонарам). І ў нас спецслужбы, увогуле сілавыя структуры напоўніцу выкарыстоўваюцца менавіта ў палітычных мэтах, дзеля барацьбы з апанентамі цяперашняй уладнай групоўкі.

З іншага боку, ва ўсім свеце прэса адстойвае свабоду, бо аматараў яе прыдушыць усюды багата. І толькі ў нас персоны з медыйнага кіраўніцтва выступаюць песнярамі зацiскання гаек. Дык ці прэса гэта ўвогуле? Болей падобна на тое, што дзяржаўніцтвам пэўныя персанажы прыкрываюць банальную сервільнасць.

Адно што ўдзячны панам з “Клуба рэдактараў” за рэкламу маёй творчасці. Галоўрэд “СБ” сказаў, што не памятае, каб Класкоўскі напісаў пазітыўны аналіз, піша, маўляў, адзін негатыў.

Што праўда, то праўда: няма ў мяне ні каліва сімпатый да сістэмы, пры якой вядуць рэй некаторыя цемрашалы, што выдаюць сваю дрымучасць ды лёкайства за дзяржаўніцтва. А гэта сістэма ў нас трывае, на жаль, даўно. І баюся, што яна надоўга. А як дажыву, то буду рады адрэагаваць пазітыўным артыкулам, калі час абскурантаў скончыцца.

Калі ж коратка рэзюмаваць маю сціплую рэцэнзію на “Клуб рэдактараў”, то вашы перадачы, панове, – гэта, як кажа моладзь у інтэрнэце, вынас мозгу, адстой і дншча.

АКЦЫЯ

## На «Чарнобыльскі Шлях» сабралі пакуль 162 рублі

*Арганізатары мерапрыемства кажуць, што неабходна 5 тысяч рублёў.*

Збор сродкаў ідзе праз краўдфандынг, але за чатыры дні пасля старту кампаніі было сабрана ўсяго 3 працэнты (*на момант падпісання нумара ў друк.* – **Аўт.**) ад неабходнай сумы.

Дарэчы, арганізатары зрабілі падрабязны расклад таго, на што патрэбны грошы: рэклама ў інтэрнэце – 1000 рублёў, знічкі – 750 руб., друк 20 тысяч улётак – 500 руб., пяць банераў на тканіне з лозунгамі – 300 руб., выраб агітацыйнага куба – 355 руб, аплата паслуг “хуткай” – 100 руб., арэнда плазменнага экрана – 1200 рублёў. У дадатак неабходны 341 рубель на аплату камісіі сайту, дзе ідзе збор сродкаў, і рэзервныя 454 рублі.

Нагадаем, што Мінгарвыканкам дазволіў сабрацца 26 красавіка каля сталічнага кінатэатра «Кастрычнік» у 18.00 без правядзення мітынгу. Адтуль шэсце рушыць па праспекце Незалежнасці, па вуліцы Сурганава і Арлоўскай да памятнага знака «Ахвярам Чарнобы-ля» ў парку Дружбы народаў. Там дазволена правесці мітынг-малітву і ўскласці кветкі з 20.00 да 20.30.

**Віктар ШПАК.**

ШЛАГБАУМ

## У чарзе на мяжы – 1,5 тысячы грузавікоў

Учора на 16.00 на мяжы Беларусі і Літвы ў пункце пропуску “Каменны Лог” стаялі ў чарзе 360 грузавікоў, у “Прывалцы” – больш за 220, у “Катлоўцы” – звыш 120, у “Бенякон” – пад 170.

Сотні машын не маглі ўчора без затрымкі пераадолець таксама беларуска-польскую і беларуска-латвійскую мяжы.



Ілюстрацыйнае фота

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Станьце і Вы прыхільнікам «Народнай Волі»

Некаторым з Вас, шаноўныя чытачы, “Народная Воля”, магчыма, трапіла ў рукі ўпершыню. Пагадзіцеся, яна ў многім адрозніваецца ад іншых газет. Вось ужо амаль 23 гады наша рэдакцый-ная палітыка нязменна трымаецца на наступных пазіцыях:

**Мы служым не ўладзе.**
**Мы служым не партыям.**
**Мы служым не алігархам.**
**Мы служым не апазіцыі.**
**Мы служым свайму сумленню.**
**Мы служым Свабодзе Слова.**
**Мы служым дэмакратыі,**
**якая на першае месца ставіць**
**сілу закона, а не закон сілы.**
**Мы служым Чалавеку, які мае**
**не толькі абавязкі, але і правы.**
**Мы служым Вам, паважаныя чытачы!**
**Мы служым Беларусі!**

Станьце, калі ласка, пастаянным прыхільнікам “Народнай Волі” – разам мы будзем пачуваць сябе мацней. Падпісацца на незалежнае ад улад дэмакратычнае выданне можна ў любы рабочы дзень у любым паштовым аддзяленні альбо ў спецыялізаваных пунктах “Белсаюздруку”. Індэкс для індывідуальных падпісчыкаў – 63222 (кошт на месячны выпуск – 6 рублёў 99 капеек).

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**



АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА

## Не кнутом, так пугой

Центральная избирательная комиссия после каждых выборов рапортует о рекордно высокой явке избирате-лей, но кто не знает цену этим словам.

Знает каждый, кого под угрозой выселения из обще-жития вынуждали проголосовать досрочно. Знает каж-дый, кто пришел на избирательный участок днем и попал в гулкую пустоту. Знает каждый, кто голосовал поздно вечером, за пару минут до закрытия участка, и видел количество подписей соседей в списке избирате-лей. Вернее, не видел этих самых подписей, потому что соседи голосовать не пошли.

Пустые избирательные участки – это уже проблема, которые просто невозможно не заметить. И в главной провластной общественной организации «Белая Русь» во главе с небезызвестным Геннадием Давыдько ее, конечно же, узрели. Более того, даже придумали, как решить.

Почему очень многие белорусы не ходят на выборы? Ответ, по-моему, очевиден. Потому что не верят в их честность и справедливость и не хотят быть массовкой политического шулерства.

Но деятели из «Белой Руси» думают не так. Они, судя по всему, уверены, что белорусы не ходят на выборы, потому что страх потеряли, потому что власть не взяла в руки кнут. Как результат – недавнее предложение об изменении избирательного законодательства, которое уже направлено в ЦИК: участие в выборах предлагается сделать не правом, а обязанностью всех белорусов, стар-ше 18 лет. За неучастие – штраф и даже лишение права занимать должности в госструктурах.

То есть мы говорим о честности, справедливости, доверии власти, легитимности власти, а функционе-ры самой массовой провластной организации, которую часто называют «партией чиновников», на эту тему даже не заморачиваются. Какая честность?! Зачем честность?! Если есть простые решения – народ, как стадо, можно пугой загнать на участки, вынудить идти голосовать под угрозой штрафов, санкций, разных иных покараний...

И, вот же циники, еще недавно они собирались оформить себя как политическую партию, много аргу-ментов в пользу необходимости развития в стране поли-тической системы приводили. Но Александр Лукашенко в последний момент идею создания партии власти не одобрил, завалил проект. И теперь «Белая Русь», у которой стать партией не получилось, на голубом глазу вносит предложение изменить Избирательный кодекс так, чтобы непосредственно сами партии не имели права выдвигать своих членов кандидатами в депута-ты. Мол, «авторитет и влияние политических партий в белорусском обществе невелики, поэтому право партий выдвигать своих представителей кандидатами в депута-ты решениями руководящих органов выглядит необо-снованной привилегией».

«Мы привилегии не добились – так пусть они не достанутся никому!!! Мы не стали партией – так похо-роним партийную систему, сделаем ее бессмыслен-ной!!!» – подтекст предложений легко прочитывается.

Честно говоря, никто не ожидал, что те, кто сегод-ня рулюет «Белой Русью», вдруг озаботятся тем, что-бы выборы в Беларуси стали честными, чтобы поня-тие «народовластие» перестало быть пустым звуком и наполнилось конкретным смыслом. Точно так же, как пчелы не выступят против меда, так и «партия чинов-ников» никогда не будет инициировать возвращение власти народу – это и дураку понятно. Но удивляет наглость, нахрапистость, дерзость в отстаивании своих интересов. Они вышли на какую-то новую стадию. То, что раньше говорилось шепотом и тайком, теперь сфор-мулировано в конкретную законодательную инициати-ву. «Партия чиновников» фактически во весь голос объ-явила, что запугивание и принуждение целесообразно сделать государственной политикой, и даже не стесня-ется публично отстаивать свою правоту.

Вам не нравятся наши выборы? Накажем!

Вам не нравятся такие порядки? Оштрафуем!

Вы не хотите изображать счастливых и довольных? Заставим!

Удивляет не то, что их, вождей «Белой Руси», не волнует, как к власти и к выборам относится народ. Удивляет то бесстыдство, с которым они показали, что народ, избиратели их уже совсем не волнуют.

ЗАПРАШЭННЕ

## Маладзёжны летнік на радзіме Васіля Быкава

*У Бычках – на радзіме Васіля Быкава – 19–24 чэр-веня пройдзе маладзёжны летнік «Сакрэты беларускай культуры», на які запраша-юць моладзь ад 18 да 30 гадоў. Удзельнікі змогуць сумясціць адпачынак, нефармальнае навучанне на свежым паве-тры ды працу па ўладкаванні тэрыторыі каля Дома-музея пісьменніка.*

Як паведамляе сайт Беларускага саюза пісьмен-нікаў, сёлета летнік ладзіцца ў трэці раз. Сярод выступоўцаў і лектараў школы былі Уладзімір Арлоў, Алесь Пушкін, Валярына Кустава, Франак Вячорка, Пятро Клюеў, Аляксандр Лукашук ды іншыя грамадскія і твор-чыя дзеячы.

За будынкам школы Васіля Быкава зараз даглядае гра-мадскасць Віцебшчыны, а валанцёры працуюць над яе аднаўленнем. Да важнай спра-вы спрычыняцца і ўдзельнікі летніка.



ПРАВА ЧЕЛОВЕКА

# Незащищенные

*О проблемах белорусской адвокатуры – диалог с известной правозащитницей* ***Раисой Михайловской.***

– В Беларуси отсутствует один из самых главных принципов адвокатуры: принцип независимости, – говорит Р.Михайловская. – Зависимость адвокатов от Министерства юстиции закреплена в Законе «Об адвокатуре и адвокатской деятельности». Основная цель ассоциаций адвокатов – защита их профессиональных интересов, а не управление их деятельностью. А у нас все с ног на голову. Адвокаты боятся аттестации, дисциплинарных взысканий, находятся под жестким контролем органов юстиции. Шаг вправо, шаг влево – и ты лишаешься источника заработка.

**– Можно сказать, лишаешься профессии.**

– Да. Международные органы давно рекомендуют Беларуси внести в закон изменения, которые приведут к независимости и самоуправлению коллегий. Но Министерство юстиции не хочет терять контроль над адвокатами. К слову, высший орган самоуправления адвокатов – общий съезд – в последний раз собирался 22 года назад.

**– Как Минюст контролирует адвокатов?**

– Прежде всего – допуск к профессии. Он осуществляется органом исполнительной власти – Министерством юстиции, а не органами адвокатского самоуправления. Квалификационная комиссия при Минюсте решает, достаточно ли адвокат подготовлен для осуществления профессиональной деятельности. В то же время большинство членов квалификационной комиссии не являются адвокатами.

**– Что случается с теми, кто не следует рекомендациям министерства?**

– Тут надо вспомнить события 19 декабря 2010 года. Адвокатов, которые защищали или экс-кандидатов в президенты, или членов их команд, или митингующих, лишили лицензии. Каким образом? Уже 29 декабря на сайте Минюста появилась информация, что эти адвокаты допускают грубые нарушения профессиональной этики. И министерство потребовало у Минской городской коллегии адвокатов принять решительные меры.

**– Что расценивалось как нарушение этики?**

– Тамару Сидоренко, адвоката Владимира Некляева, который сидел в СИЗО КГБ, не допускали к клиенту. Естественно, адвокат делала то, что должна была: писала жалобы в прокуратуру, давала интервью. И именно огласка в СМИ была расценена как нарушение этики. Президиум Минской коллегии не усмотрел нарушений и встал на защиту адвокатов. Это единственный случай, когда руководство адвокатуры пошло наперекор Минюсту, дважды отказывая в возбуждении дисциплинарного производства.

Не достигнув желаемого, по инициативе КГБ Минюст организовал проверку всех адвокатов Минской городской коллегии адвокатов. А в феврале 2011 года адвокатов Владимира Толстика, Тамару Гораеву, Олега Агеева и Татьяну Агееву лишили лицензии. В марте лишился лицензии Павел Сапелко, который, как и Агеевы, был членом Президиума минской коллегии адвокатов. За то, что отстаивал своих коллег, председателя Минской городской коллегии адвокатов Александра Пыльченко исключили из квалификационной комиссии, а потом и освободили от должности председателя. После этого главой коллегии на общем собрании был избран Андрей Санкович, но через два дня Министерство юстиции отменило и это решение. Это говорит о том, что адвокатское самоуправление существует только на бумаге.

**– Прошло семь лет – и в 2017 году лицензии лишили Анну Бахтину.**

– Бахтина защищала Мирослава Лозовского по делу «Белого легиона». Была снова инициирована проверка правильности оформления документов, которая выявила «факты, свидетельствующие о недостаточной квалификации адвоката».

**– Это и был формальный предлог для проведения внеочередной аттестации адвокатов?**

– Именно. Раз допущены ошибки в документации, надо проверить квалификацию адвоката. Аттестовывает комиссия, которая требует слово в слово процитировать ту или иную статью, независимо от специализации адвоката. Так Бахтина – юрист с 13-летним прокурорским и 25-летним адвокатским стажем – оказалась «недостаточно квалифицированной» и лишилась лицензии.

**– Как сложилась судьба тех, кто был лишен лицензии в 2011-м и 2017 годах?**

– Никто из них не пропал. Можно сказать, своими знаниями они усилили работу правозащитников и продолжают вносить свой вклад в защиту прав человека в Беларуси, что очень отрадно. Но несправедливость и испытания, которые им пришлось пережить, накладывают отпечаток на многое. Думаю, они хотят вернуться на свою работу. Один из адвокатов, которых лишили лицензии, рассказывал мне, что ему снится, как он выступает в суде. Человек до сих пор надеется, что снова получит возможность работать по профессии.

Единственным адвокатом, который восстановил лицензию, является Гораева, отказавшаяся защищать Ирину Халип. Сначала она заключила договор с родственниками, но на следующий день отказалась от защиты. Через полгода ей вернули лицензию.

**Алексей ШУНТОВ.**

ЭКОНОМИКА




## Дмитрий НЕВЕРОВИЧ, гендиректор компании «Дарида»:

# «Расходы на поездку в Испанию окупятся быстро»

*Пару дней назад в Барселоне завершилась крупнейшая продовольственная выставка ALIMENTARIA-2018. Она проходит в Испании раз в два года и является одной из самых значимых отраслевых выставок в мире.*

*В выставке приняли участие около 70 стран и более 4000 компаний и предприятий, занимающихся производством и торговлей продуктами питания и напитками.*

*Беларусь в Испании представила компания «Дарида».*

*Генеральный директор предприятия* ***Дмитрий Неверович*** *рассказал «Народной Воле» о своих впечатлениях от поездки.*

– Для нас участие в ALIMENTARIA-2018 стало довольно значимым событием, – *говорит Дмитрий Владимирович*. – «Дарида» – одно из крупнейших предприятий в Беларуси по производству минеральной, питьевой воды и безалкогольных напитков. Продукция предприятия широко представлена и за пределами нашей страны – в Литве, Латвии, Эстонии, России. Мы всегда стремимся к тому, чтобы развивать географию наших поставок. Во время прошедшей выставки с продукцией компании познакомились представители стран Европы, Северной и Южной Америки, Африки, Азии. Они отметили высокое качество и вкусовые характеристики представленного нами продукта. Мы подписали предконтракты на поставку продукции с такими странами, как Испания, Италия, Португалия, Тайвань, Израиль, несколько стран Латинской Америки. Сотрудники компании гордятся тем фактом, что в Испании наряду с другими был поднят и национальный флаг Республики Беларусь. Мы и в будущем планируем участвовать в мероприятиях такого масштаба. Я как генеральный директор понимаю, что в сегодняшних реалиях развитие компании необходимо осуществлять за счет экспортных поставок и установления тесного сотрудничества с иностранными партнерами. В целом я остался доволен результатами выставки. Лишь один факт оставил неприятный осадок: «Дарида» была единственным участником выставки от Беларуси!

Мы наблюдали, как другие государства оказывали помощь и поддержку своим производителям, объединяя их стенды под эгидой страны. Причем речь не только о странах дальнего зарубежья, но и о наших соседях – Украине, России, Польше, Литве. Ничего удивительного в этом нет: в увеличении экспорта должен быть заинтересован не только производитель, но и страна, резидентом которой он является.

Александр Лукашенко постоянно говорит о том, как важно находить каналы сбыта продукции белорусских компаний за рубежом, потому что продажа на экспорт значительно пополняет бюджет страны. Поэтому меня удивил тот факт, что гиганты пищевой промышленности Беларуси не приняли участия в данном мероприятии. И я не понимаю, с чем это связано. Может быть, чиновники, отвечающие за международное сотрудничество, не посчитали крупнейшую выставку в Испании достаточно значимым событием?

Нашему предприятию поездка на выставку обошлась примерно в 10.000 евро – это не такая большая цифра: при условии заключения контрактов расходы окупятся через очень непродолжительное время. И чем больше участников от страны, тем больше скидок предоставляет организатор, тем проще становится процесс организационной подготовки к выставке. Всем известно, что без каких-либо вложений невозможно получить желаемый результат.

Я как депутат минского районного совета депутатов хотел бы, чтобы исполнялись задачи по развитию экспорта, поставленные главой государства. Поэтому такие мероприятия, как *ALIMENTARIA-2018,* необходимо посещать. Надеемся, что в следующий раз мы будем принимать участие в подобных выставках совместно с другими предприятиями Беларуси и при содействии властей.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

СІТУАЦЫЯ

# Зноў высылаюць польскага ксяндза?

Да 1 мая Беларусь можа пакінуць пробашч парафіі Св. Міхаіла Арханёла пасёлка Гатава, што пад Мінскам, ксёндз **Кшыштаф Пасвята**. Няўжо падставай сталі тры парушэнні правілаў дарожнага руху, якія святар здзейсніў на працягу года?

– Справа ў тым, што ніхто з афіцыйных органаў мне не патлумачыў прычыны магчымай высылкі, – кажа ксёндз Кшыштаф. – Мне патэлефанавалі з Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі і сказалі, што я маю такія праблемы. Але і ім, у курыі, нічога не патлумачылі. Мне расказвалі, што падчас сустрэчы на адным з мерапрыемстваў **Тадэвуш Кандрусевіч** запытаўся ва ўпаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў пры Савеце міністраў **Леаніда Гулякі** наконт маёй справы, чаму так адбываецца, на што Гуляка адказаў, што не мае абавязкаў тлумачыць чаму.

Я магу толькі меркаваць, што прычына – тры парушэнні правілаў дарожнага руху, кожны раз я перавысіў хуткасць. Нічога іншага не было. Нікога я не пакрыўдзіў, ніякіх праблем не ўзнікала за 7 гадоў маёй працы ў Беларусі. Магчыма, камусьці не падабаецца, што мы адкрылі ў Гатаве Пастаральны цэнтр, дзе праходзяць катэхетычныя лекцыі, на якія прыходзіць шмат моладзі, дзяцей.

– Але змаганне за вас ідзе?

– Думаю, што ідзе. Наколькі мне вядома, 27 красавіка ў МЗС адбудзецца сустрэча, на якую запрошаны спадар Гуляка, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч і Апостальскі нунцый у Беларусі Габар Пінтэр. Магчыма, пойдзе размова пра замежных ксяндзоў, можа, і пра мой лёс. Калі нічога не вырашыцца, то 30 красавіка мушу з'ехаць.

Канешне, вельмі хачу застацца ў Беларусі. Мне тут усё падабаецца – і людзі добрыя, і дзеці цудоўныя. Шмат што зроблена агульнымі намаганнямі парафіі, будуецца касцёл…

Як вядома, у Беларускага касцёла існуе праблема недахопу ксяндзоў, маладыя беларусы неахвотна ідуць вучыцца на каталіцкіх святароў. Сёння каля 15% ксяндзоў, што служаць у Беларусі, – іншаземцы. У асноўным палякі. Пачынаючы з 2004 года каля 10 польскіх ксяндзоў былі пазбаўлены права працаваць у Беларусі. Апошні такі гучны скандал здарыўся ў 2016 годзе, калі адразу трох святароў-палякаў, якія служылі ў Магілёве, Івянцы і Калодзішчах Мінскага раёна, пазбавілі права служыць у Беларусі, але потым беларускія ўлады сваё рашэнне адмянілі.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Адкупіліся альбо?..

*Як ідзе расследаванне па справе аб мільённых накрутках пры закупцы медтэхнікі для беларускіх клінік, па якой былі затрыманы 12 чалавек?*

Пра гэту скандальную справу 23 лютага паведаміла МУС. Не жартачкі: прадстаўнікоў камерцыйных структур, якія займаюцца пастаўкай медтэхнікі, абвінавацілі ў тым, што яны прадавалі абсталяванне беларускім клінікам не проста, як кажуць, утрая даражэй – у некаторых выпадках кошт завышаўся ў 14 разоў! Прычым дзейнічалі арганізаванай групай. Шкода, нанесеная бюджэту, лічыцца на мільёны рублёў! «*Толькі ў выніку выканання аднаго кантракта на пастаўку медтэхнікі коштам 7 мільёнаў еўра для анкадыспансера ў 2014 годзе на сваіх пасрэдніцкіх паслугах яны зарабілі 4 мільёны еўра*", – паведамілі ў МУС.




Праваахоўнікі раскрылі і злачынную схему, па якой дзейнічалі прадпрымальныя камерсанты. «*Зламыснікі падмянялі таварасуправаджальныя дакументы, павялічвалі кошт замежнай медтэхнікі і праз падкантрольныя кампаніі, зарэгістраваныя ў Беларусі, Эстоніі і Вялікабрытаніі, пастаўлялі яе для медустаноў нашай краіны*», – праінфармавалі ў МУС.

Аператыўнікі затрымалі 12 чалавек. Як паведамлялася, "*пры вобысках канфіскаваны буйныя сумы замежнай валюты, аўто прэміум-класа, накладзены арышт на нерухомасць – кватэры і катэджы. Удзельнікамі злачыннай групы ў кошт пагашэння нанесенай дзяржаве шкоды ўжо кампенсавана сума ў 1,5 мільёна еўра*". На сайце МУС дэманстраваліся фота дарагіх машын затрыманых бізнесменаў, шыкоўныя інтэр'еры катэджаў і нават фота лядоўні, набітай дарагім алкаголем.

Следчы камітэт па матэрыялах справы галоўнага ўпраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС у дачыненні да ўдзельнікаў арганізаванай групы ўзбудзіў крымінальную справу па ч.4 арт.209 КК (махлярства). Пакаранне па гэтым артыкуле – ад 3 да 10 гадоў пазбаўлення волі.

Тады шмат каго цікавіла пытанне, ці былі сярод затрыманых прадстаўнікі Міністэрства аховы здароўя, паколькі арганізацыяй закупак медтэхнікі для ўстаноў аховы здароўя за бюджэтныя сродкі займаецца менавіта міністэрства.

Пазней з'явіўся каментарый медыцынскага ведамства. "*Ведамства ўважліва азнаёмілася з фактамі, апублікаванымі на сайце МУС,* – паведаміла прэс-служба Міністэрства аховы здароўя. – *Паводле нашых звестак, верагодней за ўсё маецца на ўвазе працэдура закупкі двух лінейных паскаральнікаў. Дадзеная тэхніка была набыта за кошт сродкаў бюджэту сталіцы для правядзення прамянёвай тэрапіі анкапацыентам у Мінскім гарадскім клінічным анкалагічным дыспансеры. Гаворка ідзе аб правядзенні першай для краіны закупкі суперскладанай, высокатэхналагічнай тэхнікі ў галіне прамянёвай тэрапіі*". У медведамстве сцвярджалі, што "*для прыняцця канчатковага рашэння перад заключэннем кантракта Міністэрства аховы здароўя атрымала ўзгадненне ад усіх зацікаўленых ведамстваў, у тым ліку сілавых. Па выніках аналізу правядзення працэдуры закупкі дадзенага абсталявання парушэнняў заканадаўства не выяўлена*", абсталяванне было закуплена нават са зніжкай. Больш за тое, у Міністэрстве аховы здароўя паведамілі, што адпрацаваная ў Беларусі сістэма закупак медабсталявання дазволіла за апошнія гады сэканоміць бюджэтных сродкаў на суму больш за 41 мільён долараў.

– *МУС, мяркуючы па ўсім, паспяшалася з высновамі,* – сказалі нам сваякі аднаго з затрыманых камерсантаў. – *Напэўна, нейкія фінансавыя недакладнасці пры афармленні дакументаў былі, але гэта не злы намер, не крымінал. Наколькі нам вядома, усе затрыманыя адпушчаны, магчыма, пад падпіску аб нявыездзе. Вернута ў бюджэт 3 мільёны еўра. Але следчыя дзеянні працягваюцца…*

Ці значыць гэта, што чарговым бізнесменам у Беларусі ўдалося адкупіцца ад крымінальнага пераследу? Такая практыка ў Беларусі робіцца звычнай справай. Дастаткова ўзгадаць справы Жыліна, Паўлоўскага, Чыжа, Баскіна, якіх спачатку затрымлівалі, прад'яўлялі абвінавачанні ў мільённых нявыплатах падаткаў, а потым, калі бізнесмены вярталі прад'яўленыя сумы шкоды, іх да суда вызвалялі з-пад арышту. Ці ўсё ж такі супрацоўнікі МУС на самай справе памыліліся ў ацэнцы дзеянняў бізнесменаў, якія пастаўляюць медтэхніку ў беларускія клінікі? Дарэчы, на сайце міліцэйскага ведамства першапачатковае паведамленне ад 23 лютага пра затрыманне ўдзельнікаў махлярскай схемы закупак медтэхнікі за бюджэтныя сродкі адсутнічае. Пошукавая сістэма выдае: "дакумент не знойдзены".

У прэс-службе Следчага камітэта Беларусі паведамілі: "*У СК расследуецца крымінальная справа ў дачыненні да прадстаўнікоў камерцыйных структур, якія здзяйснялі махлярскія дзеянні пры рэалізацыі медыцынскіх тавараў і лекавых прэпаратаў. Іх дзеянні кваліфікаваны па прыкметах злачынства, прадугледжаных артыкулам 209 КК РБ. У цяперашні час абвінавачанне прад'яўлена двум фігурантам, 10 чалавек знаходзяцца ў статусе падазроных. Расследаванне крымінальнай справы працягваецца*".

Інфармацыю пра мільённыя накруткі пры закупцы дарагога медыцынскага абсталявання Следчы камітэт не пацвердзіў.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

О ТОМ, ЧТО ВОЛНУЕТ...

# Что нас ждет?

Скорее всего, поздней осенью, после повышения зарплат учителям и воспитателям детских садов (их большинство среди членов участковых избирательных комиссий) нас ждет четвертый Конституционный референдум. Первые три прошли в 1995, 1996 и 2004 годах, и все они касались изменений и дополнений в главный закон страны и усиления президентской власти. Причем, заметьте, изменить Конституцию понадобилось уже через два года после избрания первого президента страны в 1994 году, хотя сам А.Г.Лукашенко говорил, что у него и без этого «царские полномочия». Но, как видите, и двух лет не прошло, как их стало не хватать, чтобы править страной. Поэтому 24 ноября 1996 года прошел второй референдум, на котором были приняты изменения и дополнения в Конституцию 1994 года, а точнее были изменены почти 100 статей из 149. После этого три ветви власти, а именно: исполнительная, законодательная и судебная – практически перешли в руки президента, как и все финансы страны.

Однако осталась одна проблема: президент мог избираться только два срока по 5 лет подряд. В связи с этим 17 октября 2004 года был проведен третий референдум, по итогам которого внесены изменения в статью 81 и сняты ограничения по срокам избрания президента, теперь он может избираться неограниченное количество раз.

Наш народ трижды наступил на одни и те же грабли. И, похоже, теперь ему предстоит это сделать в четвертый раз.

Как мне кажется, сценарий очередного политического спектакля исподволь готовится давным-давно. Еще 7 октября 2016 года на встрече с депутатами Палаты представителей старого и нового созывов **Александр Лукашенко** заявил: *«Возможно, назрело время провести анализ и нашего Основного закона <…> Появились новые проблемы, новые вызовы, да и время требует чего-то нового»*.

Он прямо не сказал, какие именно изменения, по его мнению, нужны в Конституции, но дал понять, что не против что-то исправить в Конституции. 23 ноября партия ЛДП, которая всем известно, ради чего создана, обнародовала инициативу о конституционном референдуме, а 25 ноября президент, встречаясь с главой Центризбиркома, *«обсудил с Лидией Ермошиной совершенствование избирательного процесса и законодательства». Тот же председатель ЛДП С.Гайдукевич предложил внести изменения в избирательную систему страны: срок полномочий Национального собрания – 5 лет, а срок полномочий президента, заметьте, 7 лет, как в Азербайджане. А избирать президента может Национальное собрание.*

*С чьей подачи обнародовал «бесценные» мысли С.Гайдукевич – всем понятно. Но что удивительно: общество практически никак не отреагировало на замысел власти, далекий от настоящей демократии. Логика у нее одна: зачем испытывать судьбу и стресс, избирая президента всенародно, когда так легче и проще? Причем по опыту 1996 года можно сделать запись в новой Конституции 2018 (или 2019) года:* **«Срок полномочий Президента исчисляется со дня вступления в силу настоящей Конституции». И тогда можно еще 7 лет спокойно царствовать аж до 2025 года. А там, смотришь, на горизонте сами по себе возникнут проблемы с преемником и вообще с передачей власти доверенному лицу.** *Поэтому необходимо заранее позаботиться обо всем. Объяснения могут быть разные, но цель у определенных лиц одна: еще более узурпировать власть.*

*А что касается самого референдума, как я вижу, то здесь уже все схвачено. Даже ЦИК и Л.М.Ермошина готовы за два месяца провести все подготовительные работы. Бюджет сверстан как надо, обратите внимание, общегосударственные расходы на 2018 год увеличены в 1,4 раза – с 7,3 до 10,02 млрд рублей. А резервный фонд президента увеличен в 9,5 раза по сравнению с 2017 годом – со 126 млн до 1,2 млрд рублей. Это даже больше, чем на всю национальную оборону страны, на которую выделено 1,1 млрд рублей. Внутренние войска проинспектированы, там полный порядок.*

*Местные выборы 18 февраля 2018 года были генеральной репетицией перед референдумом, здесь тоже порядок. А чтобы пока много не говорили о референдуме, тут же подкинули новый Закон о СМИ, который закроет от граждан «ненужную информацию». Все стратегически продумано. Даже оппозицию удалось разделить на Дне Воли, кстати, очень вовремя. Так что власть планировать для себя умеет четко.*

*То, что пока не говорится о конкретных изменениях и дополнениях – это, я считаю, обычная тактика: чем меньше времени будет оставаться до задуманного референдума, тем позже общество сообразит, какая опасность его ждет. Пока открытым остается вопрос: что даст этот референдум простому народу? На мой взгляд, он окончательно отнимет у граждан право выбирать себе власть на открытых, честных и справедливых выборах.*

**Виктор ХОМИЧ, председатель постоянной комиссии по проблемам Чернобыльской катастрофы Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



## Алесь МІХАЛЕВІЧ:
# «У мяне кліенты – па ўсім свеце…»

*Былы кандыдат у прэзідэнты – пра тое, чым займаецца зараз.*

**Алесь Міхалевіч** пакінуў Беларусь пасля прэзідэнцкай кампаніі 2010 года. Тады ён з шэрагам іншых кандыдатаў на вышэйшую пасаду ў краіне апынуўся пад крымінальным пераследам. Міхалевіч стаў адным з фігурантаў нашумелай справы "Аб масавых беспарадках". Пэўны час палітык знаходзіўся ў СІЗА КДБ і быў першым з тых, хто заявіў пра катаванні за кратамі.

Выйшаўшы на волю пад падпіску аб нявыездзе, Міхалевіч пакінуў Беларусь і эмігрыраваў у Чэхію. У верасні 2015 года палітык вярнуўся на радзіму пасля пяці гадоў жыцця за яе межамі. Дарэчы, крымінальную справу па снежаньскіх падзеях 2010 года ў дачыненні да палітыка да гэтага часу не закрылі…

– Яна была прыпынена праз паўгода пасля майго вяртання ў Беларусь, але да гэтага часу не закрыта, – кажа **Алесь МІХАЛЕВІЧ**. – Раз на год я падаю хадайніцтва аб спыненні справы і атрымліваю адмову. Прычына відавочная – пакуль дазваляюць тэрміны даўніны, мне будуць пагражаць арыштам, каб спрабаваць трымаць пад кантролем. Гэта не вельмі прыемна, затое з вышуку мяне знялі, і я магу свабодна перамяшчацца па ўсім свеце і свабодна вяртацца дадому.

**– Вас выклікаюць на допыты?**

– Не выклікаюць, бо для ўлад палітычна немэтазгодна варушыць падзеі 2010 года. Акрамя таго, як мне падаецца, найбольшай пагрозай яны лічаць тых, хто пастаянна ўдзельнічае ў вулічных акцыях. А я яшчэ ў час вымушанай эміграцыі паглыбіўся ў непалітычныя праекты. Для мяне гэта вельмі важны практычны вопыт, але для тых, хто мог бы аднавіць крымінальную справу, такая дзейнасць пагроз не нясе.

**– Чым вы пасля вяртання ў Беларусь займаецеся? І што гэта за "непалітычныя праекты"?**

– Яшчэ да вяртання я актыўна асвойваў экспартны кірунак. Паглыбляўся ў працэсы, планаваў калі-небудзь пачаць падымаць міжнародны гандаль Беларусі.

Але выйшла інакш. Я маю юрыдычную адукацыю і з дапамогай прафесіяналаў прайшоў праз усе інстанцыі для выдалення з базы Інтэрпола. Таксама прыняў вымушаны ўдзел у экстрадыцыйным працэсе ў Чэхіі. І паступова пачаў кансультаваць людзей, якія мелі праблемы з экстрадыцыяй і Інтэрполам. З цягам часу да мяне пачалі звяртацца юрыдычныя кампаніі, чые кліенты мелі падобныя праблемы.

Пачаў супрацоўнічаць з адвакацкім бюро ў Празе, затым адкрыў уласны офіс у Вільнюсе. І амаль цалкам паглыбіўся ў сферу абароны ад пераследу праз Інтэрпол і экстрадыцыі, чым працягваю займацца і зараз. У разуменні міжнароднага супрацоўніцтва паміж дзяржавамі вельмі дапамагае мой палітычны і міжнародны досвед. Кліенты раскіданы па ўсім свеце, толькі па буйных справах іх лік ужо перайшоў за сотню.

У той жа час павышаю сваю адукацыю, наведваю шмат курсаў і спецыялізаваных канферэнцый за мяжой. Дома бываю дастаткова рэдка, за год – троху больш за сто дзён. Шчыра кажучы, вельмі стамляюся і ўжо нават звыкся імгненна засыпаць у самалётах. Але эфект ад працы ёсць – фірма расце, кліенты ў абсалютнай большасці задаволены.

**– Прымаеце нейкі ўдзел у грамадска-палітычным жыцці альбо на гэта няма часу?**

– Нерэальна цалкам адысці ад грамадскай сферы, бо далёка не ўсё, што робіцца ў Беларусі, мне падабаецца, а некаторыя рэчы і наогул проста абураюць. Таму актыўна працую ў руху "За Свабоду", дапамагаю яго старшыні Юрасю Губарэвічу ў міжнароднай дзейнасці і праграмных пытаннях. Супрацоўнічаю з рознымі групамі па прасоўванні беларускай мовы ў розных сферах жыцця, аказваю юрыдычную дапамогу Цэнтру падтрымкі бежанцаў. Акрамя таго, у межах юрыдычнай практыкі вяду некаторыя справы pro bono, гэта значыць – бясплатна.

На жаль, на ўсё гэта застаецца вельмі і вельмі мала часу, хаця стараюся па магчымасці падтрымліваць тыя арганізацыі, каштоўнасці якіх падзяляю.

**– Можа быць, ёсць жаданне ў будучым ізноў сур'ёзна заняцца палітыкай?**

– Калі разглядаць палітыку як працу па змене жыцця да лепшага, то, натуральна, такое жаданне маецца. Але цяпер мне важна дасягнуць пастаўленых мэт у сваіх бягучых праектах. Трэба збудаваць устойлівую міжнародную спецыялізаваную юрыдычную фірму. Вось тады я змагу з новым вопытам і новымі сіламі вярнуцца да палітычнай дзейнасці.

**– Сям'я не ўцягнута ў вашы праекты?**

– У нас кожны займаецца сваёй справай. Жонка вучыць студэнтаў англійскай мове, дочкі вучацца ў беларускамоўнай гімназііі, а нашы каты Рыжык і Мышка не могуць паміж сабой падзяліць сферы ўплыву ў кватэры, таму, верагодна, будуюць планы па ўсталяванні сусветнага панавання.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

УТОЧНЕНИЕ

## Знаменитую балетную премию «Бенуа де ла данс» получил Валентин Елизарьев, а не Инесса Душкевич

Такое уточнение редакция вынуждена сделать потому, что в предыдущем номере «Народной Воли» в эксклюзивном интервью И.Душкевич при его вычитке, к сожалению, произошло искажение факта, кто на самом деле был удостоен такой высокой награды.

Приносим извинения В.Елизарьеву, И.Душкевич и читателям.

СІТУАЦЫЯ

## Ні сала, ні мяса…

*Эканамічным судом Гродзенскай вобласці адкрыта конкурсная вытворчасць па справе аб банкруцтве ААТ "Лідскі мясакамбінат".*

З 1991 года прадпрыемства займалася вырабам мясной прадукцыі, але ў апошні час страты прывялі да таго, што нават рэалізацыя ўсіх актываў не дазваляе разлічыцца па фінансавых абавязацельствах. У выніку яшчэ ў маі мінулага года сход акцыянераў прыняў рашэнне аб немэтазгоднасці дасудовага аздараўлення і неабходнасці падачы заявы ў суд.

Як стала вядома, першы агульны сход крэдытораў адбудзецца ў Эканамічным судзе Гродзенскай вобласці 18 ліпеня.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ДЕБЮТЫ

## Вера – это наша надежда

**Юная белорусская балерина Вера Шпаковская,** ученица известной Марины Вежновец, **заняла третье место на Международном конкурсе Youth America Grand Prix (YAGP).**

Один из самых крупных и авторитетных конкурсов в мире **прошел в Нью-Йорке.** В этом году на конкурс было подано более тысячи заявок от учеников балетных школ детей в возрасте от 9 до 19 лет. Полуфиналы проходили во Франции, Испании, Бразилии, Японии, Корее, Мексике, Австралии и во всех американских штатах. В жюри вошли директора балетных школ из Швейцарии, Франции, Германии, США, в том числе знаменитая в прошлом французская балерина Элизабет Платель (теперь директор балетной школы Парижской оперы).

В финале конкурса в возрастной группе 9–12 лет за победу боролись 172 участника из 36 стран. Вера Шпаковская заняла третье место, исполнив вариацию из балета «Жизель» и номер «Росток» (хореография Маргариты Сазоновой).

**Виктория ДРОЗД.**

ЧУЛІ?

# «Газпром» пачынае новы балтыйскі праект

Расійскі газавы манапаліст распачынае будаўніцтва на Балтыцы (каля горада Усць-Луга побач з Санкт-Пецярбургам) гіганцкага перапрацоўчага комплексу коштам больш за 20 мільярдаў долараў. Комплекс будзе перапрацоўваць больш за 45 мільярдаў кубаметраў газу ў год. Вынікам ягонай работы стане вытворчасць метану для вялікага хімічнага завода "Балтык СПГ", які будзе пабудаваны ў тым жа раёне. Будзе наладжана таксама вытворчасць поліэтылену ў памеры да 1,5 мільёна ў год. Астатні газ пойдзе ў Еўропу праз "Паўночны Паток – 2".

Раней у гэтым праекце планаваў браць удзел вядомы галандска-брытанскі канцэрн "Shell", але пасля таго як "Газпром" папаў пад санкцыі, патэнцыяльны інвестар адмовіўся.

Наколькі зменіцца экалагічная сітуацыя вакол новага завода, пакуль не вядома, але ж зразумела, што ў выніку аварыі пацерпіць увесь Балтыйскі рэгіён.

ЖИВИ И ПОМНИ!

*Как частный поисковик нашел могилу без вести пропавшего во время войны дедушки Светланы Алексиевич*

# Село Стожок, в саду возле дороги…

Нобелевский лауреат по литературе Светлана Алексиевич не раз писала, что ее дедушка, мамин отец, погиб в годы Великой Отечественной войны где-то в Венгрии. Но никаких официальных извещений семья не получала, и поэтому вдова воина осталась с пятью детьми без помощи государства. Писательница добавляла, что давно ищет хоть какие-то сведения о близком родственнике, но поиски, увы, безрезультатны.

Я посчитал своим долгом помочь ей. Для начала попытался встретиться с Алексиевич, чтобы узнать установочные данные: фамилию деда по матери, место его рождения. Когда осенью 2017 года проходило заседание интеллектуального клуба писательницы и в Минск приехал известный российский режиссер Александр Сокуров, мне с трудом, но все-таки удалось протиснуться к Светлане Александровне сквозь плотное кольцо почитателей. Представившись, я попросил сообщить более подробные сведения о дедушке. И тут же получил их: "Петр Пипа, уроженец села Высшая Крапивна, Винницкая область. Его жена Александра Ивановна". Но поговорить обстоятельно не удалось. Хотя для начала поисковых работ и этой информации было вполне достаточно.

Возвратившись поздно ночью домой, я тут же сел за компьютер и на сайте МО РФ «ОБД-Мемориал» обнаружил две адресные строки по запросу «Пипа Петр, Винницкая область». Впрочем, в обеих записях отчество воина было записано с ошибками. Но это уже не влияло на дальнейший поиск военной судьбы Пипы Петра Маркиановича.

**1-я информация.** Книга погребения погибших воинов 797-го стрелкового полка 232-й стрелковой дивизии за период 01.01.1945 – 09.05.1945 гг. Текст из книги захоронения: «**Пипа Петр Макиянович**. 1-й батальон. Красноармеец. Беспартийный. 1894 г. Винницкая обл., Ситковецкий р-н, с. Кропивна. Ситковецким РВК. Место могилы – с. Стожок в саду возле дороги. Место нахождения в могиле – один. Похоронен 20.II.45 г. Жена Александра Ивановна. Винницкая обл., Ситковецкий р-н, с. Кропивна».

**2-я информация.** Донесение Ситковецкого РВК Винницкой области от 5 января 1947 года: «**Пипа Петр Маркиянович**. Красноармеец. Неиз. б/п. Пропал без вести II-45. 1894 года рождения. Украинская ССР, Винницкая обл., Ситковецкий р-н, с. В.Крапивна. Ситковецким РВК Винницкой обл. в 1944 г. Письменная связь прекратилась в 1944 г. Считать пропал без вести. Жена Пипа Александра Ивановна. Ситковецкий район с. В.Крапивна».

Но где же находится село Стожок, в котором похоронен воин? Увы. При наборе в Google компьютер забивается стогами сена всего мира. Провал!

Приступил к изучению боевого пути 232-й стрелковой дивизии. Дивизия оказалась с очень большим боевым опытом и большими наградами. Она входила в состав 51-го стрелкового корпуса 40-й армии 2-го Украинского фронта, героически воевала в Венгрии, где Красной Армии удалось разгромить и уничтожить отборные танковые войска Германии, лишить Германию нефтепромыслов и нефтепродуктов, а затем ее повернули фронтом в Чехословакию. И в момент гибели воина 232-я дивизия уже вела бои в горах на территории Чехословакии. Бои были очень тяжелыми, и потери убитыми и ранеными были очень и очень большими.

В состав этой 232-й стрелковой дивизии, где воевал рядовой Пипа, входил 797-й стрелковый ордена Суворова полк (с 29.06.1943). Впоследствии, уже после гибели воина, после освобождения 14.03.1945 города Зволен (Словакия, затем Чехословакия, потом Республика Словакия) полк стал именоваться: 797-й стрелковый Зволенский ордена Суворова полк. Город Зволен в Словакии давно известен по поисковым работам. Вызов в Google географической карты Словакии с городом Зволен наконец дает долгожданный результат: вот он, искомый Stožok!

Но есть ли там братское захоронение красноармейцев? Интернет на этот счет молчал, но мне было известно, что в послевоенный период в Словакии (и в других странах) производились перезахоронения погибших воинов Красной Армии.

Прошли еще бессонные сутки в поиске, и вот в основном установлена военная судьба воина Петра Маркиановича Пипы. Оставалось оформить итоги и отправить сведения на электронную почту интеллектуального клуба Светланы Александровны Алексиевич. Что и было сделано.

Ответ от писательницы пришел через трое суток и был очень эмоциональным. Думаю, человек был в некотором роде в шоке от полученных сведений о дате, месте гибели и месте первичного захоронения своего дедушки, которого искали давно, но безрезультатно. Эмоции понятны…

Хотя вдова воина Александра Ивановна не имела никаких официальных документов, но знала, что муж погиб в Венгрии. Откуда были эти сведения? Вполне вероятно, что ей сообщили вернувшиеся живыми однополчане. И, кстати, это было правдой! Перед Второй мировой войной село Стожок входило в состав Чехословакии, затем от Чехословакии отделилась Словакия под патронажем Германии. Затем хортистская Венгрия оккупировала эту часть Словакии (аналогичная ситуация сейчас в Украине, когда часть территорий Луганской и Донецкой областей оккупированы агрессивной Россией), и в период Второй мировой войны эта часть территории была насильственно присоединена к Венгрии. На момент гибели воина эта территория считалась венгерской, и фронтовики были правы, сообщив, что Петр Маркианович погиб в Венгрии.

Но после окончания Второй мировой была вновь образована Чехословакия, в которую вошла Словакия, которая затем, уже в наше время, мирно разошлась с Чехией и стала самостоятельным государством. Село Стожок искали в Венгрии, а оно теперь находится в Словакии.

Мною были написаны письма-запросы в мэрию города Зволен и в Красный Крест Словакии о месте нынешнего захоронения и увековечения памяти воина-красноармейца Петра Пипы. И вот в марте, то есть несколько недель назад, пришел большой и обстоятельный ответ от госпожи мэра Зволена с сообщением, что погибшие в Стожке 59 воинов-красноармейцев были в 1946 году перезахоронены в одну из братских могил военного мемориала в городе Зволен как неизвестные. В данный момент воин Пипа Петр Маркианович на основании присланных мной копий документов занесен в регистрационные документы МВД Словакии, его фамилия включена в списки захоронения и будет увековечена на мраморной плите воинского мемориала. В письмо были вложены схема захоронения и четыре красочные фотографии военного мемориала Зволена.

Затем пришло письмо-справка от Красного Креста Словакии с такой же информацией. Хочется отметить оперативную, качественную, согласованную работу мэрии г.Зволен, департамента регистрации МВД Словакии и коллектива Красного Креста Словакии по увековечению памяти воина-красноармейца Петра Маркиановича Пипы.

Так накануне 73-й годовщины окончания Второй мировой войны вернулся с войны еще один солдат – дедушка Светланы Алексиевич. Все поисковые материалы отправлены мной в Высшекрапивненский сельский Совет Немировского района на родину воина-красноармейца.

**Анатолий МИТЯНЕНКО, исследователь-поисковик.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## «МАЗ» – як керагаз, БТР – як звер

У г.Бяроза Брэсцкай вобласці сутыкнуліся аўтамабіль "МАЗ" і бронетранспарцёр. Вінаватым аказаўся кіроўца "МАЗа", які трапіў у бальніцу. Затое ні БТР, ні той, хто ім кіраваў, пашкоджанняў не атрымалі…

Той, хто гойсае на "МАЗе",
Выглядае, як герой.
Кожны з нас, ва ўсякім разе,
Гэтак думае парой,
Бо магутнай той махіне
Іншы транспарт не раўня:
Толькі мокры след пакіне,
Як наедзе на каня.
Супраць "МАЗа" ліліпуты
"Запарожац" ці "Масквіч",
На якім, у крук сагнуты,
Едзе дзед ці нейкі хрыч.
Дый японская "Таёта"
І нямецкі "Гольф" які
Супраць "МАЗа"-кашалота –
Быццам гнойныя жукі.
Гэтак думаў і Мікіта,
Як садзіўся за стырно.
Ён на "МАЗе" самавіта
Гарцаваў ужо даўно.
Проста млеў ад асалоды
На разлогах бальшакоў,
Ігнаруючы заўсёды
"Ліліпутаў" і "жукоў".
Неяк доблесны Мікіта
Згледзеў бронетранспарцёр.
Па шашы, ушчэнт разбітай,
Ён, як кажуць, танкам пёр,
Нос угору ганарліва
Задзіраў, як дзюдзя лыч.
(Дый яно, бадай, не дзіва:
БТР жа – не "Масквіч".)
І ад гневу
У Мікіты
Забурліла ў жылах кроў.
Ён, абурана-сярдзіты,
Нібы той бугай, зароў:
– Пакажу і гэтым разам,
Што мая машына – звер,
Што з маім цягацца "МАЗам"
Не сумее й БТР!
Зараз мы як след праверым,
Чый мацнейшы ўсё-ткі нос!
"Пацалунак" з бэтээрам
Быў, як кажуць, узасос.
Ды ад жорсткага тарана
Стаў калекам толькі "МАЗ",
І, як сведчыць болька-рана,
Ён не звер, а керагаз.
Ну а шкоды бэтээру
Не нанёс таран ані.
Трэба толькі фарбай "зверу"
Памазюкаць на бране.
Проста дзіва, што Мікіта
Не папаў у іншы свет.
Кажуць, хоча ён нібыта
Перасесці на мапед…
* * *
Хай належныя высновы
Зробіць наш славуты МАЗ.
Грузавік патрэбны новы:
Той, што зараз ёсць у нас,
Вялікае ўсё ж трывогу…
Але знаем мы цяпер,
Што надзейны, дзякуй Богу,
Дапатопны БТР!

### Азы

Палітык ведае любы
Публічнай дзейнасці азы:
Што-небудзь вартае зрабі
І пахваліся тры разы.

### Не хапае здароўя

Я бачыў людскія
Камедыі, драмы,
І вось да якое
Высновы прыйшоў я:
Усё-такі праведнік –
Грэшнік той самы,
Ды толькі яму
Не хапае здароўя…

### Не спіцца

"Заплаці падаткі –
Спі спакойна!" –
Кажа так урад
Вякоў спакон нам.
Асабіста я
Плацельшчык спраўны,
Ды не спіцца
На галодны страўнік…

### Актуальна і зараз

Кутузаў найперш не сілу,
А мудрую меў галаву:
Каб выратаваць Расію,
Патрэбна спаліць Маскву…

### Вораг і сябар

Вось як адрозніць
Ворага ад сябра:
Закляты вораг
Скажа праўду хрыбра,
У твар
Нібыта кінуўшы пальчатку,
А сябар трэба
Напаць спачатку…

### Не наследнікі, а дзеці

– Віншую! Ты ўжо тата –
Наследнік ёсць на свеце…
– Лухта! З маёй зарплатай
Быць могуць толькі дзеці…

РЫБАЛОВАМ

*Хачу, каб "Народная Воля" нагадала ўсім аматарам рыбнай лоўлі пра тое, што на красавікмай і на пачатак чэрвеня прыпадае нераставы перыяд, таму на вадаёмах павінна быць цішыня. Хаця гэта не азначае, што ў дадзены перыяд аматарскае рыбалоўства забаронена поўнасцю…*

**Аляксей КУРГАНАЎ.**
*Магілёў.*

## Не забывай, рыбалоў…

Сёлета ў Мінскай, Магілёўскай і Гродзенскай абласцях забарона на лоўлю ўсіх відаў рыб уведзена з 1 красавіка па 30 мая. У Віцебскай вобласці такое правіла дзейнічае з 10 красавіка па 8 чэрвеня. У нашых паўднёвых абласцях – Брэсцкай і Гомельскай – забаронны перыяд лічыцца з 20 сакавіка па 18 мая.

Падчас нерасту аматары парыбачыць могуць з'яўляцца на вадаёмах толькі з адной вудай, маючай адзін кручок, альбо з адным спінінгам, аснашчаным штучнай прыманкай. Пры гэтым рыбалка дазваляецца толькі ў светлы час сутак з берага без заходу ў ваду, а такса- ма з самадзейных мосцікаў.

УСМЕШКА МАСТАКА

# У Мінску падаражэлі вугаль, дровы і торфабрыкеты




Цяпер кошт каменнага вугалю складае 39,34 рубля за тону. Падаражанне склала 5,13 рубля. Паліўныя брыкеты выраслі ў цане на 2,4 рубля да 18,43 рубля за тону. Дровы змешаных парод падаражэлі да 5,89 рубля (0,77 руб.) за кубічны метр.

**Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.**

ПЫТАННЕ – АДКАЗ

## Колькі ў Мінску пражывае ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны?

З такім пытаннем у "Народную Волю" звярнуўся наш пастаянны чытач **Ілля Максімавіч Курловіч.** Наш адказ наступны.

Напярэдадні Дня Перамогі ўдакладняюцца спісы былых франтавікоў, партызан, усіх, хто змагаўся з фашысцкімі захопнікамі ў 1941–1945 гадах і каму пашанцавала дажыць да сённяшніх дзён. На жаль, іх застаецца ўсё менш і менш. Нядаўна ў афіцыйным друку з'явілася інфармацыя, што ў Мінску пражываюць усяго каля 2700 удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны.

**Таццяна КАВАЛЬЧУК.**

МНЕНИЕ

## Консолидируйтесь!

Судя по всему, в оппозиции продолжается раскол. Власть, понятно, поощрит это.

Не приведет ли такая ситуация к тому, что на выборах 2020 года общество получит результат 20-летней давности?

После революции 1917 года большевики победили из-за раскола в белом движении: каждый генерал применял власть на себя. Вот и наши «генералы» от оппозиции страдают этой же болезнью. Если не избавиться от нее, то смены внутренней и внешней политики нам не видать как собственных ушей. И в очередной раз мы окажемся у разбитого корыта, как та старуха, что в сказке Пушкина.

Почему лидерам демократических партий и движений не ясно, что общественные интересы всегда выше личных?

Именно на сплочение всех оппозиционных сил надо направить усилия негосударственных СМИ и всего общества.

**В.А.СТЕПАНИЩЕВ,**
**житель Витебска.**

СМЕХАТУРА

## Чего не хватает среднему сыну президента?

Умеют же наши люди прогибаться. Как мужчины, так и женщины. Ищут любой повод, чтобы восхвалить «кого следует». Вот не так давно под неусыпным оком директора редакции УП «Агентство «Минск-Новости» Екатерины Дубинской вышел в свет очередной номер газеты «Минский курьер». А в нем под рубрикой «Именинники» читаем: «*На нынешней неделе поздравляем с днем рождением семь уважаемых жителей столицы*». Спросите: почему семь, а не десять, не двадцать и не тридцать? Неужели из примерно двух миллионов жителей столицы на той неделе именинниками были только семь уважаемых граждан?

Да ладно с количеством, пусть это будет секретом непосредственно автора публикации – некоей Марии Говоровой. Вам, читатели «Народной Воли», наверняка интересно знать, кого же редакция «Минского курьера» включила в список наиболее достойных именинников? Я лично не мог не обратить на это внимание. Здравица прозвучала в честь **директора ООО «Мотовелозавод» Н.А.Ладутько,** того самого, который, помните, несколько лет был председателем Мингорисполкома и, заметим, фактически являлся непосредственным начальником Дубинской (учредитель УП «Агентство «Минск-Новости» – горисполком).

Не осталась незамеченной круглая дата **министра архитектуры и строительства Республики Беларусь А.Б.Черного.** Желая ему «*успешного воплощения в жизнь всех планов*», редакция «Минского курьера» подробно рассказала всю его биографию. Какой великий человек!

Более скромного места удостоились **председатель Следственного комитета Республики Беларусь И.Д.Носкевич** и **ректор Академии управления при президенте РБ М.Г.Жилинский,** которому печатное издание желает «*дальнейших успехов и высоких оценок его труда*».

А как не зачислить в число «*уважаемых жителей столицы*» **генерального директора УП «Мингаз» В.Е.Шолоника?** От слаженной работы предприятия, которым он руководит, оказывается, «*зависит многое, среди прочего – будет ли тепло и* **сытно** (выделено ред. – **«НВ»**) *в домах и квартирах минчан. Желаем Вадиму Евгеньевичу, чтобы на работе было как можно меньше чрезвычайных происшествий, а в жизни – как можно больше счастливых случайностей*». Интересный намек, не правда ли?

**Митрополит Филарет, почетный Патриарший Экзарх Всея Беларуси,** как известно, уже не на службе, а потому «Минский курьер» лишь присоединяется ко всем добрым словам и пожеланиям в его адрес и добавляет: «*Многая лета!*»

Стоп! Чуть не забыл сказать о том, как Е.Дубинская и М.Говорова поздравили **председателя центрального Совета республиканского общественного объединения «Президентский спортивный клуб» Д.А.Лукашенко.** Читаем: «*Желаем Дмитрию Александровичу достатка во всем и семейного счастья!*» Вот так – у среднего сына президента пока, видимо, чего-то не хватает, может, денег, а может, жилплощади… Как говорят, хоть стой, хоть падай. Неужели уровень достатка Д.А.Лукашенко ниже уровня достатка миллионов жителей столицы?

Так и напрашиваются слова: хотели лизнуть, а получилось – гавкнули.

**Николай Иванович РЕЕНТ,**
**ветеран труда.**

ВЕРСІЯ

## Чаму ў Машэрава былі як быццам дзве даты нараджэння…



Хачу прапанаваць чытачам "Народнай Волі" сваю версію разгадкі таямніцы, чаму ў Пятра Міронавіча Машэрава былі як быццам дзве даты нараджэння (артыкул у "НВ" за 13.02.2018 Аляксандра Фядуты). Лічу, што абедзве яны – 26 лютага 1918 г. і 13 лютага 1918 г. – сапраўдныя. У тыя часы дзяцей не рэгістравалі ў валасцях ці гмінах, а хрысцілі праз пэўны прамежак часу ў царкве. Калі ўжо пры ўсталяванні савецкай улады здаралася нагода афармляць пашпарт, то даводзілася звяртацца ў архівы, дзе выдавалася метрыка на падставе царкоўных кніг і дата хрышчэння прастаўлялася як дата нараджэння. І толькі бацькі ведалі дакладна, калі з'явілася на свет сын ці дачка. Таму ў пашпарце была адна дата нараджэння, а рэальна – іншая. Разыходжанні здараліся не толькі ў межах аднаго месяца. Асабіста ў мяне разыходжанне атрымалася ў цэлы год, бо я нарадзіўся ў снежні, а хрысцілі мяне ў студзені наступнага года.

У майго брата было разыходжанне ў два гады, праўда, па іншай прычыне, і ён не ведаў гэтага да 20 гадоў. Сваю загадку я таксама разгадаў у сталым узросце, калі пачаў чытаць бацькаву кнігу, у якой ён вёў сямейную бухгалтэрыю на англа-амерыканскай мове (у Амерыцы пражыў 20 гадоў).

**Аляксей АМЕЛЬКА, ваенны пенсіянер.**
*Брэст.*

ЛІКБЕЗ

## Які чорт да лазні…

Беларускія варыянты рускай прымаўкі "Черного кобеля не отмоешь добела":

Варона колькі ні мыецца, усё адно чорная.

Які чорт да лазні, такі і пасля лазні.

Паможа вароне мыла, як мерцвяку кадзіла.

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА!

# Ці зарасце лесам радзіма Якуба Коласа?

Добры дзень, шаноўная рэдакцыя!

Гэты мой ліст – рэакцыя на артыкул Міхася Скоблы "Як шукаюць ворагаў у Музеі Коласа" ("НВ" за 16 сакавіка) і, па сутнасці, працяг актуальнай, наспелай тэмы: у чыіх руках сёння знаходзіцца Коласава – агульнанацыянальная – спадчына? Ёсць факты і сведчанні, якія насцярожваюць, прымушаюць задумацца.

Вось характэрны прыклад. Гадоў пяць таму ў мемарыяльных мясцінах песняра, у Смольні, пасадзілі парк і алею, дзе да кожнага дрэўца прымацавана дыхтоўная шыльдачка-модуль (коштам, я ўдакладніў, пад 200 рублёў). Адмысловы стэнд паведамляе, што гэта лесапасадка "Дрэва жыцця". Што за навацыя ў запаведным нерушы? Мемарыяльная сядзіба, як падаецца, вымагае іншых падыходаў.

Спыняюся перад юным клёнікам, пасаджаным у гонар паэта Сяргея Новіка-Пеюна, і зажурана думаю: чалавек 25 гадоў змарнаваў у турме (польскай, нямецкай і савецкай), Божай ласкаю выжыў... Стаю перад дрэўцам, што ўшаноўвае Ларысу Геніюш, якая 8 гадоў адбыла ў ГУЛАГу і да гэтай пары не рэабілітавана... Кранаю галінкі дрэўца ў памяць Ніла Гілевіча, вялікага беларуса, на якога сістэма накінула саркафаг забыцця і маўчання. Гэта што – "лясны" вянок на іх магілы? "Дрэвы жыцця" спішуць усе правіны ўлады ў адносінах да пісьменнікаў пры жыцці?

Тыя "дрэвы жыцця" мяне доўга не адпускалі. Я перамераў крокамі лесапасадку разоў дзесяць, чытаўперачытваў імёны і разважаў. Ну, вырастуць дрэвы, развінуцца ў кронах. Заслоняць зялёнай сцяной панараму нёманскай поймы. А маляўнічасці мемарыяльнай сядзібе надаюць акурат далёкасяжныя краявіды – там пятляе Нёман, палавее пясчаны бераг, пазначаюць гарызонт надрэчныя дубы...

Ад дырэктаркі Літаратурнага музея Якуба Коласа Зінаіды Камароўскай даведаўся пра задуму сквера "Дрэва жыцця". Гадоў колькі таму яны з колішнім загадчыкам аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама Анатолем Грэкавым былі ў Міхайлаўскім і прывезлі адтуль дубок...

Вы зразумелі сакральнасць дубка? Так-так – ад самога Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна! Але пры чым тут Коласава Смольня? Водзаль яшчэ растуць ліпы, пасаджаныя самім песняром! Вось яны – на сваім месцы.

Да падказанай Міхайлаўскім музеем лесапасадкі прысуседзіўся яшчэ адзін




наватвор энтузіястаў-аматараў: паркдэндрарый, запачаткаваны ў 2012 годзе з удзелам тагачаснага прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча. Навошта той дэндрарый на мемарыяльнай сядзібе беларускага песняра? І што з яго атрымаецца гадоў гэтак праз дзесяцьпятнаццаць?

Асабліва непрыемнае ўражанне пакінуў памятны камень – з нагоды закладкі дэндрарыя і Тыдня лесу (праходзіў у 2012-м) – з надпісам па-руску. Надпіс той успрымаецца як абраза памяці Коласа і мемарыяльнай мясціны. Што гэта – невуцтва, хамства ці ўсё ў адным флаконе? І справа тут не толькі ў чужой мове, ад якой пясняр да апошніх сваіх дзён бараніў мову родную. Справа яшчэ ў тым, што імя Коласа напісана з двума "о" – "Колоса".

І вось мне думаецца: а ці ёсць у музеі навуковы аддзел? А калі ёсць, то чаму яго супрацоўнікі дапускаюць падобныя самавольствы? А можа, чужая прысутнасць мае свой кошт і разлік? Я маю на ўвазе не толькі рускамоўны камень ад урада, але і дубок з Міхайлаўскага…

Урэшце, што ж рабіць? Праблема крычыць, і кожная вясна дадае неспакою, быццам торкае ў сэрца: сквер падымаецца і разрастаецца. Праз год-два будзе запозна – вырашаць трэба сёння! На жаль, Міністэрства культуры на мой леташні зварот адказала фармальнай адпіскай. Думаю, тут сваё слова павінна сказаць аўтарытэтная і незалежная камісія з удзелам адмысловўцаў (абавязкова – дэндролага). Як на добры лад, і сквер, і дэндрарый трэба ўжо сёлета перасаджваць у іншае месца, напрыклад, у Мікалаеўшчыну, бліжэй да школы.

Мясціны, якімі натхняўся геній, ад якіх, як і сто гадоў таму, сыходзіць дух роднага слова, павінны ўсё ж заставацца для нас жывымі ілюстрацыямі іх неўміручай спадчыны.

**Валер ДРАНЧУК.**

**На фота: памятны камень на радзіме Якуба Коласа.**

ГОЛАС З-ЗА БУГА

# Разгул дэмакратыі

*Як у цэнтры Варшавы ўжываюцца дэманстранты, прахожыя і турысты*



Водзячы гасцей з Беларусі па сталіцы Польшчы, мне не раз даводзілася «ратаваць» іх ад удзельнікаў разнастайных палітычных акцый, якія праходзяць у гістарычным цэнтры. Госці з Мінска баяліся ісці побач з натоўпам пад сцягамі і транспарантамі. Нягледзячы на тое, што парадак пільнавала паліцыя. Страх у душах беларусаў перад дэманстрацыяй – гэта нешта!

У пазамінулыя выхадныя я па традыцыі выбраўся ў гістарычны цэнтр горада. Дарогу з дому давялося пераадольваць пешшу. Рух трамваяў і аўтобусаў на нейкі час быў спынены, каб даць дарогу прыхільнікам забароны абортаў. У Польшчы гэта гарачая тэма. Людзі выйшлі выказаць сваю думку: чалавек у зародку мае права на жыццё, нават калі яму наканавана нарадзіцца інвалідам. Ёсць і іншая думка: аборт – прыватная справа жанчыны. Прыхільнікі гэтай пазіцыі таксама час ад часу збіраюцца на плошчах.

Гэтым разам акцыя пратэсту праходзіла на Замкавай плошчы. Арганізатары выкрыквалі лозунгі, раздавалі шарыкі, агітацыйную літаратуру. Хтосьці слухаў, нехта праходзіў міма.

Я пайшоў на Стары Рынак – хвіліна пешшу ад перапоўненай страсцямі плошчы. Ход жыцця на Рынку вызначалі турысты: пры запоўненых століках кавярань і рэстаранаў, вынесеных на плошчу, у чэргах па марожанае…

Калі я вярнуўся на Замкавую плошчу, след папярэдняй акцыі пратэсту прастыў. Тут грымела музыка: выступалі індзейцы з Паўднёвай Амерыкі. Побач я зноў пачуў гук з мегафонаў. Дзве купкі маладых людзей вялі ідэалагічны бой за і супраць незалежнасці Каталоніі. Паміж імі стаялі некалькі паліцэйскіх. І праплывалі чароды турыстаў. Большасць мясцовых жыхароў і гасцей горада была абыякавая да палітычных дыскусій. Іх цікавілі добрае надвор'е і прыгожы краявід.

Дамоў я ехаў на трамваі. Рух транспарту быў адноўлены. Разам са мной у вагоне знаходзіліся людзі са згорнутымі сцягамі і транспарантамі. Яны скарысталіся магчымасцямі дэмакратыі і, супакоіўшы душу, ехалі з добрым настроем дахаты.

**Віктар КОРБУТ.**

*Варшава.*

НА СВЯЗИ – КИЕВ

# Игры «патриотов»,

## или Как нейтрализуют украинского президента

Последняя неделя в Украине ознаменовалась тем, что триумвират из топовых госчиновников, формально правящих Украиной: Петра Порошенко, Александра Турчинова, Арсена Авакова и присоединившегося к ним Владимира Гройсмана – отметились фактически программными заявлениями. Хотя до президентских выборов еще около года, а до плановых парламентских – полтора, но реальный старт кампаниям уже дан.

Первыми в бой ринулись государственные ВИПы, но по сути, как ни странно, в отличие от 2014 года сегодня это политические аутсайдеры. «Народный фронт», который олицетворяют Яценюк, Турчинов и Аваков, сдулся очень быстро: фактически через год после выборов его победный парламентский рейтинг обвалился до 1%. После катастрофического падения подняться ему так и не удалось.

### Предвыборная социология

Во второй половине марта КМИС (Киевский международный институт социологии) обнародовал результаты общенационального опроса, проходившего в феврале 2018 года. Согласно им «**Народный фронт**», получивший на выборах 2014 года **22,14%**, на сегодняшний день имеет рейтинг **0,6%**, «**Блок Петра Порошенко**» с **21,82%** съехал до **2,7%**, «**Самопомощь**» с **10,97%** упала до **2,4%**, «**Оппозиционный Блок**» с **9,43%** снизился до **5%**, «**Радикальная партия**» с **7,44%** до **5,6%.** Из парламентских партий только рейтинг «**Батьківщини**» вырос с **5,6%** до **9,1%**. Пятипроцентный проходной барьер преодолели бы всего три политические силы: «**Батьківщина**», «**Радикальная партия**», «**Оппозиционный Блок**», но на предстоящих выборах проходной барьер может быть снижен до 3%, поэтому к ним могут присоединиться партии, ранее не попадавшие в парламент. Это партия **Вадима Рабиновича** «**За жизнь**» с **4,2%** и партия **Анатолия Гриценко** «**Гражданская позиция**» с **3,8%**.

По сути, для украинских политических элит это катастрофа. У народа нет доверия к нынешним политикам, и существует колоссальный запрос общества на новые имена в политике. **37%** опрошенных еще не определились, за кого будут голосовать, **16%** приняли решение не участвовать в голосовании, **5%** вычеркнули бы всех. В совокупности это **58%** – есть за что бороться.

Прохудились и нынешние президентские рейтинги, если их сравнить с выборами 2014 года. Рейтинг **Петр Порошенко** с **54,7%** упал до катастрофических **3,9%**, правда, до показателя экс-президента **Виктора Ющенко** немного не дотянул. У того за год до президентских выборов 2010 года рейтинг был **2,4%**. Хотя президентские политтехнологи считают, что у президента Порошенко хорошие стартовые позиции. **Юлия Тимошенко**, как ни странно, тоже съехала с **12,8%** до **9,8%**. **Олег Ляшко** с **8,3%** до **6,2%**. **Анатолий Гриценко** почти остался при своих, **5,5% – 5%** сейчас. Конкуренцию Петру Порошенко в борьбе за почетное 4-е место могут составить **Юрий Бойко** из «Оппозиционного Блока» с **3,9%** и отколовшийся от этой политсилы **Вадим Рабинович** с **3,8%**. Остальные не дотягивают до 2%. Кстати, у экс-премьера **Арсения Яценюка** всего лишь **0,3%**, а у его нынешнего коллеги **Владимира Гройсмана** дела обстоят немногим лучше – **1,7%**. «Не определились», «против всех», «не идут на выборы» – в совокупности получается **60%** избирателей.

«Народный фронт» и «Блок Петра Порошенко» – две самые многочисленные парламентские партии, состоящие в формальных союзнических отношениях, – судя по всему, о совместных действиях так и не договорятся. Единым фронтом не пойдут, а из-за низкого рейтинга им придется, скорее всего, маскироваться и создавать новые политические движения.

### Ошибки президента

Подковерная политическая борьба в Украине сейчас в самом разгаре. Еще год назад Петр Алексеевич был лидером президентских рейтингов. И наивно полагал, что у него со вторым президентским сроком все схвачено, что всех оппонентов он переиграл и можно спокойно всех дальше «нагибать» и «вить веревки». Но оказалось, что это была иллюзия.

Сначала президент начал бороться с предпочтениями своих граждан в интернете, ограничив доступ в Украине к популярным соцсетям «ВКонтакте» и «Одноклассники». Закрыть полностью доступ не получилось, но трудности создал. Запреты обходить украинский народ научился быстро, но осадочек остался. Затем Петр Порошенко ввязался в абсолютно бессмысленную борьбу со своим персональным раздражителем Михаилом Саакашвили. Закусивший удила харизматичный опальный политик подтвердил свой имидж «Терминатора», вслед за Арсением Яценюком обвалил рейтинг Петра Порошенко. За полгода с момента скандального возврата в Украину Саакашвили и до его выдворения из страны рейтинг Петра Алексеевича снизился с 13% до 3,9%.

Помогли ли союзники из «Народного фронта» спуститься с лидерских небес Петру Порошенко или это «профессионально» сработали президентские имиджмейкеры, уже не столь важно. Важно другое: после начала обвала президентского рейтинга «союзники» начали выходить из-под президентского контроля, осмелели и неожиданно для президента решили диктовать свои условия.

Попытка в марте напугать всех раскрытым заговором и сплотить элиты и народ около президента провалилась. Двух известных неадекватов, действующих под контролем украинских спецслужб, выдать за организаторов масштабного заговора не удалось. Президент во второй раз наступил на «грабли Савченко», что, безусловно, скажется на его имидже. Реальных «заговорщиков» Петр Алексеевич, как оказалось, проглядел, не там искал.

Президент Порошенко в надежде на беспрекословное выполнение поставил задачу правительству и парламенту реализовать его инициативы, связанные с выходом Украины из СНГ и прекращением действия отдельных пунктов договора «О дружбе, сотрудничестве и партнерстве между Украиной и Россией». Премьер-министр Гройсман и председатель Верховной Рады Парубий как будто воды в рот набрали и многозначительно промолчали. Но зато высказались третьеразрядные депутаты, которые поставили под сомнение реализацию запоздалых инициатив президента. Что это, завуалированный саботаж? Президент, наверное, опешил.

*Что же сделает Петр Порошенко для выхода из сложившейся ситуации? Как его инициативы торпедируются высокопоставленными «союзниками»? Об этом – в следующем номере «Народной Воли».*

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,**
**собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

У ДВУХ СКАЗАХ

***

Кіраўнікі знешнепалітычных ведамстваў дзяржаў G7 (група ўключае ў свой склад найбуйнейшыя рынкавыя эканомікі свету), якія сустрэліся ў Таронта (Канада), збіраюцца захоўваць жорсткі курс у адносінах да Расіі. Згодна з іх меркаваннем, Расія сёння пагражае сусветнай бяспецы і нясе адказнасць за спробы дэстабілізацыі становішча ў шэрагу краін.

***

Паўднёвая Карэя перапыніла прапагандысцкую радыётрансляцыю на мяжы з Паўночнай Карэяй на нявызначаны тэрмін. Паводле меркавання ўлад Сеула, гэты крок павінен прадэманстраваць добрую волю напярэдадні перамоў дзвюх Карэй на вышэйшым узроўні.

***

У галоўным ізраільскім аэрапорце імя Бен-Гурыёна за адзін дзень былі затрыманы 38 пасылак з наркотыкамі: насеннем каноплі, какаінам, метамфетамінам, гашышам, ЛСД, марыхуанай і г.д. Іх спрабавалі пераслаць у Ізраіль па міжнароднай пошце.

***

Грамадзянін Італіі Альберта К'япаці 40 год пражываў у люксавых гатэлях і набываў прадукты ў дарагіх магазінах, не плацячы за гэта нават еўра. Ён выдаваў сябе за палітыка з партыі "Ліга Поўначы", запрошваючы адтэрміноўку ў гандляроў і адміністратараў гатэляў.

***

Школьнікі германскай федэральнай зямлі Бадэн-Вюртэмберг падалі петыцыю міністру адукацыі, паколькі палічылі тэставыя заданні па нямецкай і англійскай мовах занадта складанымі. За два дні петыцыю падпісалі 16.000 чалавек.

***

На пляжы ў іспанскім горадзе Сан-Себасцьян прайшоў традыцыйны ўрок танцаў для жадаючых, удзел у якім бралі амаль 1500 вучаніц мясцовых харэаграфічных вучылішчаў і 31 педагог. Акцыя адбываецца штогадова з 1997 года.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

# Аршанская кальчуга-байдана

Скарбы, як вядома, адкрываюцца нечакана. Так здарылася і ў адным з аршанскіх манастыроў. Амаль 200 гадоў у ягоных скляпеннях хавалася каштоўнасць значна большай вартасці, чым золата і срэбра. Падчас рамонту ў сярэдзіне XIX стагоддзя будаўнікі знайшлі замураваную ў сцяне запыленую за стагоддзі баявую кальчугу. Працерлі пыл гісторыі і ўбачылі на кольцах літары. Яшчэ больш здзівіліся дойліды: не буквар жа гэта манаскі, не азбука школьная!

Каштоўны здабытак перадалі ў Віленскі музей старажытных рэчаў. Вопытныя спецыялісты як вялікую загадку разгадвалі яе паходжанне. Высветлілася, што незвычайная знаходка адносіцца да XVI стагоддзя. А час тады быў неспакойны. Суровым выпрабаваннем для беларускіх земляў стала Лівонская, альбо Інфлянцкая, вайна. Барацьба Расіі ў 1558–1583 гадах супраць Лівонскага ордэна, Швецыі, Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага за выхад да Балтыйскага мора насіла зацяты характар. З тым далёкім часам і з беларускай зямлёй звязаны лёс ажно дзвюх кальчуг.

Адна з іх належала маскоўскаму князю Пятру Іванавічу Шуйскаму, актыўнаму ўдзельніку Лівонскай вайны. На сваім ваенным шляху ён зведаў шмат перамог. Аднак у студзені 1564 года фартуна адвярнулася ад яго. У бітве на рацэ Ула непадалёк ад Чашнікаў князь не здолеў супрацьстаяць корпусу вялікага гетмана літоўскага Мікалая Радзівіла Рудога. Войска Шуйскага спазнала паражэнне, а сам князь быў забіты. Ягоная кальчуга захоўвалася ў Аружэйнай палаце Маскоўскага Крамля. Пазней Іван Грозны абдарыў ёю вядомага казацкага атамана Ермака, з імем якога звязана пакарэнне Сібіры. А ў дадатак цар паслаў Ермаку і яшчэ адну.



Моцна ўсцешаны царскай шчодрасцю, Ярмак не здымаў іх ні днём, ні ноччу. Калі ў 1585 годзе яму давялося ратавацца ад раптоўнага набегу татараў, начны Іртыш праглынуў цела Ермака, абцяжаранае важкімі даспехамі. А кальчуга Шуйскага-Ермака перанесла шмат прыгод і зноў вярнулася ў Маскоўскі Крэмль.

А што ж з аршанскай знаходкай? Даследчыкам давялося прыкласці шмат намаганняў, перш чым яны прачыталі мудрагелістыя надпісы на маленькіх кольцах. Гэта і адкрыла таямніцу. Зацёртыя літары склаліся ў словы: «Ивана Грьевіча Выроткова». Як вядома, майстар-аружэйнік у той час свайго імені на вырабах не пакідаў. Значыць, надпісы сведчылі пра асобу ўладальніка кальчугі, для якога невядомы майстар і выкаваў ахоўнае адзенне.

Гэтай асобай быў Іван Рыгоравіч Вырадкаў. Ён служыў дзяком (быў такі адміністрацыйны чын) у маскоўскага цара Івана Грознага – Жахлівага. Стаў вядомы як ваенны інжынер, адзін з першых будаўнікоў рускіх партоў на Балтыцы. Адбывалася гэта ў самы напружаны час царавання Івана Грознага – з 1547-га па 1565 год. Іван Вырадкаў ездзіў у замежныя краіны з дыпламатычнымі місіямі, удзельнічаў у прыёме паслоў польскага караля Жыгімонта II Аўгуста. Браў удзел у асадзе Казані, будаваў ваенныя ўмацаванні. Пасля быў важным царскім чыноўнікам у Маскве, меў частыя выезды з самім царом. Каб засцерагчыся ад розных нечаканасцяў, ён вырашыў заказаць сабе кальчугу. Як правіла, яны выраблялiся тады з металічных кольцаў, скляпаных на цвік. Аршанская ж кальчуга мела зусім іншую будову, адрознівалася ад традыцыйных метадаў кальчужнага рамяства. Яна нагадвае кашулю, мае каля 90 сантыметраў у даўжыню і каля 70 у шырыню. Важыць крыху больш за 12 кілаграмаў.

Па характэрных прыкметах яе можна аднесці да кальчугі-байдана. Гэтым словам арабскага паходжання называлі від кальчугі з буйных пляскатых жалезных кольцаў, якія былі высечаны спецыяльным штампам з суцэльнага жалезнага ліста. Вядома, змацаваць гэткія кольцы між сабой было немагчыма. Таму кальчуга складалася з чаргавання суцэльных кольцаў і кольцаў на заклёпках. Гэткія кальчугі называлі яшчэ сечанымі. Дзеля надання магічнай сілы на кольцы наносілі малітоўныя надпісы. Іх упрыгожвалі рознымі ўзорамі.

Усё гэта маецца і на Аршанскай кальчузе, што яднае яе з вядомай кальчугай-байданай, якая належала некалі Барысу Гадунову. Каштоўнасць аршанскай знаходкі не толькі ў старадаўнасці яе паходжання і спосабе вырабу. Асаблівую вартасць маюць надпісы на ёй.

Патрабавалася ювелірнае майстэрства, каб на кольца, шырыня абадка якога 3 міліметры, дыяметр – 17, а таўшчыня ўсяго адзін міліметр, нанесці літары. Аршанская знаходка мае яшчэ большыя дзівосы – надпісы зроблены на абодвух баках усіх кольцаў: і тых, што з заклёпкамі, і суцэльных. Гэта робіць кальчугу сапраўды унікальнай, надае ёй асаблівую каштоўнасць. Ад кальчуг масавага вырабу аршанскую вылучае тое, што надпісы зроблены спецыяльна для яе, па заказе ўладальніка, таму нідзе больш не паўтараліся.

А што ж сталася з Аршанскай кальчугай пасля? Верагодна, разам з Іванам Грозным у гэтай ахоўнай апратцы царскі дзяк Іван Рыгоравіч Вырадкаў хадзіў паходам на Полацк у 1562 годзе. Пасля ён удзельнічаў у бітве на рацэ Ула, дзе перамаглі вялікалітоўскія воі. Былі захоплены абозы царскага войска, у якім разам з Пятром Шуйскім змагаўся атрад Івана Вырадкава. У ліку трафеяў аказалася ягоная кальчуга. І, магчыма, тады гэты трафей быў схаваны ў Аршанскім манастыры. Цяпер жа кальчуга захоўваецца ў Гістарычным музеі ў Маскве.

БЛИЦ-КОММЕНТАРИЙ

# Ереванский урок для Минска

Премьер-министр Армении Серж Саргсян все же подал в отставку. Он честно признал, что лидер оппозиции Никол Пашинян был прав, требуя от него совершить подобный шаг.

Еще неделю назад Саргсян – бывший президент, изменивший Конституцию, чтобы получить пост главы правительства и продлить таким образом свою власть, – чувствовал себя уверенно и спокойно. Его встреча с лидером оппозиции продлилась ровно три минуты; столько времени было нужно, чтобы заявить, что на переговоры он не пойдет.

Пришлось пойти. И пришлось уйти.

Оппозиционные митинги длились около недели. Митингующих арестовывали, били дубинками, разгоняли шумовыми гранатами. Оппозиционных депутатов тоже арестовали. Но люди продолжали выходить. Они терпели Саргсяна до тех пор, пока верили в его уход. А когда угроза «вечного лидера» стала реальной, терпеть перестали.

Кремль не помог. Пресс-секретарь Путина заявил, что события в Ереване – внутреннее дело Армении.

Смысла в изменении Конституции не было. Во всяком случае новая Конституция досталась новому политику, имени которого мы пока не знаем. Но знаем другое: добровольный уход Саргсяна предоставил экс-президенту возможность получить гарантии собственной безопасности. Хорошо, что он вовремя это понял.

**Александр ФЕДУТА.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
24 КРАСАВІКА 2018 г.

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

# Сціплае вяселле алімпійскай чэмпіёнкі

*Біятланістка Ірына Крыўко выйшла замуж за сэрвісмена зборнай Арцёма Лешчанку, і зараз пара праводзіць мядовы месяц на Кіпры.*

У снежні мінулага года падчас этапа Кубка свету ў французскім Ансі **Ірына Крыўко** заваявала "серабро" ў мас-старце і на радасцях прызналася: *"Мне зрабілі прапанову, у наступным годзе я выйду замуж"*.

Натуральна, вяселля ніхто не чакаў да таго часу, пакуль не пройдзе Алімпіяда. Як вядома, на Гульнях Ірына ў складзе эстафетнай зборнай выступіла проста феерычна – каманда заваявала "золата".

*"Маладыя вырашылі зрабіць вяселле ў вузкім коле, таму яно было зусім сціплае,* – распавяла "Народнай Волі" **Людміла КРЫЎКО**, маці спартсменкі. – *Мерапрыемства прайшло ў мінулую пятніцу ў адным з кафэ Наваполацка, прысутнічалі толькі родныя жаніха і нявесты. Усяго было каля 15 чалавек"*.

Людміла Браніславаўна распавядае, што на ўрачыстасць не запрашалі ні трэнераў, ні дзяўчат з каманды, і нават сведкі на вяселлі не прысутнічалі.

*"Ірына і Арцём яшчэ раней казалі, што яны хочуць, каб такая дата найперш стала сямейным святам*, – кажа яна. – *Таму мы іх шчыра павіншавалі, і на наступны дзень маладыя паляцелі ў адпачынак на Кіпр"*.

Са слоў нашай суразмоўцы, Ірына і Арцём ведаюць адзін аднаго яшчэ з тых часоў, калі разам вучыліся ў вучылішчы алімпійскага рэзерву. Жаніх на год старэйшы за нявесту.

*"Вельмі добры ў мяне зяць, я яго таксама даўно ведаю,* – дадае маці алімпійскай чэмпіёнкі. – *Добры, працавіты... У Наваполацку яны катэдж сабе пабудавалі, таму і жыллё ў маладых ужо ёсць. Няхай жывуць у згодзе ды радуюць бацькоў перамогамі і дзеткамі!"*



**Алесь СІВЫ.**

ФУТБОЛ

# «Слуцк» імкнецца у лідары

*Адбыліся матчы 4-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: "Прамень" (Мінск) – "Слуцк" – 0:3, "Дынама" (Мінск) – "Гомель" – 2:1, "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – "Мінск" – 2:1, "Тарпеда" (Мінск) – "Нёман" – 0:1, " Іслач" (Мінскі раён) – "Гарадзея" – 0:0, "Дынама" (Брэст) – "Смалявічы" – 2:2.

## Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Мн) | 4 | 3 | 1 | 0 | 6–2 | 10 |
| БАТЭ | 3 | 3 | 0 | 0 | 5–0 | 9 |
| Слуцк | 4 | 2 | 2 | 0 | 5–1 | 8 |
| Віцебск | 3 | 2 | 1 | 0 | 5–2 | 7 |
| Днепр | 3 | 2 | 1 | 0 | 3–1 | 7 |
| Тарпеда-БелАЗ | 4 | 2 | 1 | 1 | 4–3 | 7 |
| Нёман | 4 | 1 | 3 | 0 | 3–2 | 6 |
| Тарпеда | 4 | 1 | 2 | 1 | 2–2 | 5 |
| Дынама (Бр) | 4 | 1 | 2 | 1 | 4–5 | 5 |
| Іслач | 4 | 0 | 4 | 0 | 1–1 | 4 |
| Смалявічы | 4 | 0 | 2 | 2 | 3–5 | 2 |
| Мінск | 4 | 0 | 2 | 2 | 2–5 | 2 |
| Гомель | 4 | 0 | 2 | 2 | 1–3 | 2 |
| Шахцёр | 3 | 0 | 1 | 2 | 1–3 | 1 |
| Гарадзея | 4 | 0 | 1 | 3 | 1–5 | 1 |
| Прамень | 4 | 0 | 1 | 3 | 1–7 | 1 |

**P.S.** *У табліцы не ўлічаны вынікі матчаў "Днепр" (Магілёў) – "Шахцёр" (Салігорск), "Віцебск" – БАТЭ (Барысаў), якія завяршыліся ўчора вечарам.*

*Фота: fcminsk.by*



ДЫЯЛОГІ

## Міхась СКОБЛА – ксёндз-магістр Уладзіслаў ЗАВАЛЬНЮК

# «Калі мы адыходзім ад роднай мовы, то падпарадкоўваемся чужой ідэалогіі»

*Мінскі касцёл Святога Сымона і Святой Алены, які гараджане называюць Чырвоным, – адзін з сімвалаў беларускай сталіцы. Збудаваны на сродкі мецэната Эдварда Вайніловіча, асвечаны ў далёкім 1910-м, храм перажыў некалькі войнаў і дзесяцігоддзі ваяўнічага атэізму. Ён пабываў і здымачнай пляцоўкай кінастудыі "Беларусьфільм", і Домам кіно, дзе ў сярэдзіне 1980-х ладзіліся закрытыя паказы забароненых у савецкай краіне стужак. Касцёл урэшце быў вернуты вернікам, і сёння ў ім шматлюдна не толькі падчас набажэнстваў, але і на розных культурных мерапрыемствах, якія нястомна арганізоўвае ксёндз-магістр* ***Уладзіслаў Завальнюк****.*

**– Ойча Уладзіслаў, па веравызнанні я праваслаўны, таму бываў у Чырвоным касцёле пераважна на літаратурных сустрэчах з Рыгорам Барадуліным і Нілам Гілевічам. Па-свойму сімвалічна, што праз ваш храм пралягаў і іх апошні зямны шлях... Не кожны святар дазволіць выступаць з амбона паэтам. А чаму вы ішлі на гэта?**

– Жывое слова вельмі важнае падчас набажэнстваў. Яно гучыць прыгожа, прыцягальна і змястоўна, згадайма выразы Барадуліна "сонцакрылыя анёлы" ці "ўнебаўзносіцца хвалой". Таму мы і ладзілі паэтычныя вечарыны, ды і сёння з амбона многія святары чытаюць барадулінскія вершы. На час Вялікага посту нават спецыяльную выбарку з яго твораў зрабілі, чыталі для людзей. Прычым не толькі ў Мінску – у Вушачах, Глыбокім, Браславе, Відзах, Гродне. Тыя вершы закранаюць душу, яны вельмі духоўныя, звернутыя да народа, да Бацькаўшчыны, да маці. У многіх людзей у алтарыку, дзе ружанец і крыжык, ляжаць і вершы Барадуліна, бо многія людзі ўспрымаюць іх як духоўную літаратуру. І Ніла Гілевіча я вельмі паважаў. Сустрэчы з Барадуліным і Гілевічам у касцёле для людзей былі – як паэтычныя пропаведзі. Людзі былі ў захапленні, як стаялі, так і ішлі, каб Барадулін ці Гілевіч падпісалі ім свае кнігі. Не хапала кніг, то неслі свае малітоўнікі на подпіс. Гэта ўражвала.

### «У атэістычныя змрочныя часы ксёндз Чарняўскі быў як светач»

**– Нядаўна ў Вішневе на Валожыншчыне адкрыўся хіба першы ў Беларусі музей святара – знакамітага ксяндза Уладзіслава Чарняўскага. Вы яго добра ведалі. У чым вам бачыцца яго галоўная заслуга?**

– Прыгаданы музей – як людская пашана святару, які каля паўстагоддзя служыў на адным месцы – у Вішневе. Як ён сам гаварыў: "Я некаторых і хрысціў, і вянчаў, і дабраслаўляў, і ў апошні шлях праводзіў". Ён сапраўды быў для мясцовых людзей і бацькам, і духоўнікам, і настаўнікам. У атэістычныя змрочныя часы ксёндз Чарняўскі быў як светач. Касцёл пры ім быў заўсёды адчынены, ксяндза заўсёды можна было знайсці на месцы. Да таго ж ён быў шчыры беларус, горача любіў сваю Бацькаўшчыну. Усю сваю любоў да радзімы ён уклаў у пераклад Святога Пісання. Як толькі меў вольную хвіліну, адразу сядаў за працу. Я многа разоў бываў у Вішневе, і мяне заўсёды здзіўляла гасціннасць гаспадара. Усё, чым хата багата, ставілася на стол. І адразу да мяне з роспытамі: "На якой мове вядзеш набажэнствы? У касцёле па-беларуску – добра. А як з людзьмі на вуліцы? Адразу пераходзіш на "маскоўку"?"

**– Ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі ў моўным пытанні быў гэткі катэгарычны?**

– Ён проста хацеў, каб родная мова гучала паўсюль. З-за гэтага і нёс крыж цярпення, бо не ўсе яго разумелі. Калі ж цяжка захварэў, то ляжаў у сябе дома. Не атрымліваў належнага догляду, бо, ведаеце, людзей вакол было многа, але ў кожнага свая сям'я, свая работа. Я іх не асуджаю. Вернікі да мяне звярнуліся: ойча Уладзіслаў, дапамажыце. Я адразу паехаў у Вішнева. Забралі мы ксяндза ў сталічны шпіталь. А калі яго адтуль выпісалі, я аддаў яму першы паверх плябаніі. І ўжо тут безупынна ішлі людзі да яго на прыём. Гэта яго, відаць, стамляла, але і дастаўляла яму вялікую радасць. Шмат хто чуў, што на Валожыншчыне ёсць такі беларускі ксёндз Чарняўскі, а тут яго можна ў Мінску ўбачыць! Ён і набажэнствы служыў. Потым, калі зусім занямог, то мы разам служылі. Як той земляроб, які бараною ачышчае зямлю ад камянёў, ад пустазелля, ксёндз Чарняўскі ачышчаў душы людскія. Мяне ўсцешыла, што мясцовыя ўлады і людзі пажадалі, каб з'явіўся музей. Засталося ж многа рэчаў, прац ягоных. Мы зрабілі рамонт у выдзеленым памяшканні, і цяпер пані Тэрэза Бітэль працуе там дырэктарам. Ведаю, што ў музеі бывае шмат наведнікаў.

### «Знак Божы ў Ватыкане правяраецца яшчэ адной камісіяй»

**– Вы шмат зрабілі дзеля ўшанавання памяці будаўніка і мецэната Чырвонага касцёла Эдварда Вайніловіча – выдалі некалькі кніг, перанеслі яго прах з польскай Быдгашчы ў Мінск. Па вашай ініцыятыве распачаўся працэс ягонай беатыфікацыі. Чаму Вайніловіча вы хацелі б бачыць у ліку Святых?**

– Бо ён меў у сабе маральнасць, веру і чалавечнасць – тры кіты, якія ўзнімаюць чалавека ў жыцці. Беатыфікацыя – вельмі складаны і няхуткі працэс. Першы этап быў інфармацыйны. На працягу сямі гадоў мы збіралі матэрыялы пра Вайніловіча – што ён пісаў, што пра яго пісалі, розныя дакументы. Слава Богу, два гады таму шаноўны мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч аб'явіў Вайніловіча Слугой Божым – у прысутнасці прадстаўнікоў Ватыкана, епіскапату, духавенства, гісторыкаў і вернікаў. Цяпер працэс рухаецца далей, працуюць адпаведныя камісіі.

**– Кандыдат у Святыя мусіць быць цудатворцам. Як адбываецца распазнанне і ўлік тых цудаў?**

– Пра ўсё я не маю права гаварыць, але сапраўды павінны быць цуды. Каб не высветлілася праз якія 5–7 гадоў, што ўсё гэта, аказваецца, бутафорыя. Праводзяцца дэталёвыя праверкі. Скажам, камісія Каталіцкай Царквы збірае ўсе звышнатуральныя знакі і ўздзеянні на таго ці іншага чалавека. На дакуменце падпісваецца той, хто атрымаў Божы дар. Калі гэта адбываецца па медыцынскай лініі, то ставіць подпіс галоўурач, які пацвярджае, што чалавек быў безнадзейна хворы і раптам цудоўным чынам ачуняў. Яму сказалі: лячэнне не дапаможа, едзьце дадому. А ён праз 5–7 месяцаў вяртаецца ў клініку – абсалютна здаровы. Там, безумоўна, здзіўляюцца: маўляў, мы вас даўно пахавалі... Гэты знак Божы перадаецца ў Ватыкан, правяраецца яшчэ адной камісіяй, якая канстатуе з'яву. І тады ўжо распачынаецца працэс кананізацыі. Гэта ўсё вельмі сур'ёзна.

### «Пасека на Чырвоным касцёле – першая гарадская ва ўсёй краіне»

**– Сваіх гасцей вы частуеце мёдам з вуллёў, якія стаялі на даху Чырвонага касцёла. Усё ж гэта цэнтр горада, ці чысты атрымліваецца мёд?**

– Першы мёд мы адразу падалі ў лабараторыю, і ён аказаўся намнога лепшым, чым з некаторых пасек на прыродзе. У горадзе няма апрацоўкі раслін і дрэў хімікатамі, як тое робіцца на палях. Тут шмат розных кветак, таму і палітра мёду незвычайная. Усё ж наша сталіца вельмі квітнеючая і зялёная. Гарадскія пасекі – не наша прыдумка. Такая традыцыя існуе здаўна ў Заходняй Еўропе, у ЗША. На сённяшні дзень, нават мне цяжка паверыць, у Берліне ажно тысяча пасек! У мяне яшчэ пасека ёсць каля Будслава, 12 вуллёў, а на касцёле чатыры было. Пакуль ідзе рамонт, мае пчолы часова прапісаліся ў Батанічным садзе.

**– А як не захочуць вярнуцца? Там для іх сапраўдны рай.**

– Я ўпэўнены, што захочуць. Было б хораша і карысна, каб нашы людзі разводзілі пчол і ў гарадах. А пакуль пасека на Чырвоным касцёле – першая гарадская ва ўсёй краіне.

**– Вы з'яўляецеся капеланам пэўнай вайсковай часці. А як ставіцеся да таго, што святары часам асвячаюць авіяносцы і атамныя падводныя лодкі? Гэта ж зброя, якая сее смерць.**

– Тут важна зразумець, што асвячаецца зброя не для экспансіі, а для абароны. Гэта вельмі даўняя традыцыя. Яшчэ ў часы сярэднявечча заўсёды былі капеланы, якія ішлі з войскам на абарону сваёй зямлі. Калі ж ідуць захопнікі, там не павінна быць святароў. Толькі там, дзе абарона. Паглядзіце, што сёння робіцца ў свеце… І капелан моліцца: Божа, дапамажы выжыць, дай розум тым, хто нясе пагрозу маёй Бацькаўшчыне. Гэта не азначае: "Божа, панішчы іх усіх". Божа, дай розум, каб чалавек вярнуўся дадому. Бо захопніцкая рабаўнічая вайна – гэта падвойны грэх. Адна справа – урывацца ў чужы дом, краіну, забіваючы бязвінных, і рабаваць чужое дабро. А другая справа – абараняць. Я пра гэта кажу, калі выступаю перад вайскоўцамі, якія прысягаюць бараніць Бацькаўшчыну, а калі ёсць неабходнасць – нават аддаць за яе жыццё. Не павінна быць такога, што святар дабраслаўляе ляцець і бамбіць Афганістан ці Сірыю.

### «У алтарнай частцы касцёла былі прыбіральні і курылкі»

**– Калі вы ў далёкім 1986 годзе атрымалі прызначэнне ў Мінск, у Чырвоным касцёле размяшчаўся Дом кіно. Была парафія, быў святар, але не было храма. Ці памятаеце Вы той дзень, калі касцёл быў вернуты вернікам?**

– Памятаю, мы атрымалі дабраславенне ад святой памяці Кардынала Юльяна Вайвадса, тады якраз адзначаўся вялікі юбілей – 1000-годдзе хрышчэння Кіеўскай Русі. Ад таго часу пайшло такое паступовае, разумнае, лагічнае вяртанне людзей да Бога, вяртанне святыняў. Памятаю таксама, як на ўрачыстым святкаванні 100-годдзя касцёла Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч прыгадваў, як ён перажываў, калі вернікі маліліся ў галерэі, калі асмеліліся ісці працэсіяй вакол храма. Ён сапраўды называўся тады Домам кіно, але ніхто яго так не называў. Казалі проста – Чырвоны касцёл. Гэта было штосьці страшнае… На другім паверсе была банкетная зала, рэстаран, "танцпол", у партэры паказвалі забароненыя фільмы для эліты, а ў алтарнай частцы – прыбіральні і курылкі. Там, дзе Святая Святых, людзі хадзілі апраўляцца… Па храмах можна меркаваць пра тую ці іншую мясціну – вёску, мястэчка, горад. Калі храм прыгожы, дагледжаны, то ёсць адчуванне, што людзі там маюць высакароднасць духоўную. Дзе храмы занядбаныя, дзе крыжы ледзь не падаюць, там, як правіла, людзі далёкія ад духоўнасці і культуры.

**– Беларуская грамадскасць ведае вас як святара, як даследчыка гісторыі Касцёла. Для многіх стала неспадзяванкай, калі асобнай кнігай у свет выйшла ваша паэма "Так хацеў Бог!" – пра таго ж Эдварда Вайніловіча. Як вам столькі гадоў удавалася хаваць у сабе паэта?**

– Я дзякую Богу і за такую магчымасць. Мне хацелася перадаць у скароце гісторыю Чырвонага касцёла. А сказаць ёмка і коратка можна толькі скарыстаўшы паэтычную форму. У паэме я суперажываю лёсу сям'і Вайніловічаў, роду з 600-гадовай гісторыяй. Род Вайніловічаў вельмі высакародны, вельмі інтэлектуальны, яго можна параўнаць хіба з родамі Радзівілаў ці Сапегаў.

**– Вы служылі ў розных краінах – у Расіі, Малдове, Латвіі, Літве… Ці былі ў вас парафіі і храмы з такой багатай гісторыяй, як касцёл Святога Сымона і Святой Алены?**

– Там, дзе я служыў, – велічная архітэктура, вельмі прыгожыя храмы, але душа Чырвонага касцёла – Эдвард Вайніловіч, і яго лёс непаўторны. Тут усё вельмі звязана з ім, ён марыў жыць і памерці на Бацькаўшчыне. Але лёс закінуў яго ў Польшчу, у Быдгашч. Слава Богу, у 2006 годзе па дамоўленасці паміж нашымі краінамі і касцёламі мы перавезлі яго астанкі ў Мінск. Эдвард Вайніловіч, яго вера, яго дзейнасць – усім нам прыклад. Ён жа тройчы выбіраўся ў царскую Думу, ён ішоў з Богам, ён дапамагаў усім – і сінагогу ў Клецку будаваў (стаіць і сёння), і мячэць у Слуцку, хадайнічаў перад царом. Тады яшчэ не было слова "экуменізм", але Вайніловіч ужо жыў гэтым, любіў усіх, быў для ўсіх адкрыты, усім дапамагаў. Вось яго словы: "Няхай людзі розных веравызнанняў, кожны ў сваёй святыні, славяць Адзінага Бога на небе!"

### «Вера ў Бога і нацыянальная ідэя – гарантыя нашай будучыні»

**– Перад тым як задаць наступнае пытанне, хачу працытаваць радкі з вашай паэмы: *"Бязбожнікі бальшавікі замоўкнуць званам казалі / ды арганам буржуйкі свае палілі, / бо душы іх, бачыш, ад атэістычнага холаду лядоўнямі ставалі, / карчанелі ды замярзалі. / А з бронзы і срэбра тых званоў за адвагу медалі / і перамогу камунізму адлівалі, / свой страх хавалі"*. 70 гадоў у душах нашых людзей улады сеялі бязбожжа. Колькі часу трэба, каб народ акрыяў?**

– Гэта можна зрабіць толькі з Божай дапамогай, калі будзе добрая воля ўсіх нас. Мы часта чуем пра нацыянальную ідэю, пра адраджэнне. Але не забудзьце, што кожная рэвалюцыя, кожны пераварот рухаліся таксама ідэямі, але іх база была матэрыяльнай. Згадайце французскую рэвалюцыю ці наш кастрычніцкі пераварот. Чаму ўсё адышло-рассыпалася? Бо на пяску ўсё будавалася, а трэба будаваць на духоўным. Калі мы далучым да Божай ідэі, да веры нашу нацыянальную ідэю – будзем жыць у вяках, у пакаленнях, адбудзецца наша адраджэнне! І таму не трэба саромецца веры. Гэта стане узвышшам нашага духу, і мы будзем разумець адзін аднаго, дапамагаць адзін аднаму, бо ўсё, што мы робім, яно для будучыні. Вера ў Бога і нацыянальная ідэя – гарантыя нашай будучыні.

**– Я добра памятаю той час (канец 1980-х), калі ішло змаганне за Чырвоны касцёл. Вернікі маліліся на вуліцы, нават галадавалі – на знак пратэсту. І сёння ідзе змаганне за вяртанне святыняў. Скажам, у былым касцёле Святога Язэпа на сталічнай Плошчы Свабоды знаходзіцца Музей-архіў літаратуры і мастацтва, якому ў тых мурах няма дзе разгарнуцца. Ці павінен будынак усё ж вярнуцца да вернікаў?**

– Вяртанне святыняў – наш супольны абавязак. Пакуль мы не адкрыем, не ачысцім усе святыні, не будзе Божага блаславенства над намі. Гэта як арганізм: здаецца, здаровы, але тэмпература трымаецца 36,8 – не то хворы, не то здаровы. Таксама і тут: калі сярод сотняў ці нават тысячы адкрытых святыняў ёсць яшчэ 10–15 у запусценні – бяда! Дай Божа, каб усе святыні былі вернуты, а там, дзе трэба будаваць, каб будаваліся.

**– Аднойчы я прысутнічаў на богаслужэнні і пачуў, як вы сказалі літаральна наступнае: "Той, хто забывае родную мову, чыніць грэх". Як вы лічыце, ці доўга яшчэ будзе працягвацца гэтае грэхападзенне нашага грамадства?**

– Трэба нам гэтую кропку пераадолець, як на вяршыню гары ідучы. Калі будзем уздымацца, то настане перавага роднай мовы, а пакуль што мы ўсё яшчэ ў дарозе… Сёння мы маем беларускамоўныя набажэнствы ў Чырвоным касцёле, але ў канцылярыі адказваем на той мове, на якой да нас звяртаюцца. Я перакананы, што ніхто нікому не можа забараніць карыстацца роднай мовай. Калі мы адыходзім ад роднай мовы, то падпарадкоўваемся чужой ідэалогіі. Таму я і цяпер гатоў паўтарыць: хто забывае родную мову, здзяйсняе грэх. А потым, на якой мове трэба вучыць дзіця маліцца? Не на лацінскай ж, не на грэчаскай. А калі дзіця не ведае малітвы на роднай мове, калі зусім не моліцца, то паўстае пытанне: якая сітуацыя ў сям'і? Бо калі няма малітвы – гэта грэх, паколькі малітва ачышчае, малітва аздараўляе і ўзвышае. Калі не ідзём, паважаныя суайчыннікі, ні ў царкву, ні ў касцёл, ні ў малітоўны дом, а дома перад тэлевізарам праседжваем канапы, – гэта, безумоўна, грэх. Мы павінны далучыць сябе да духоўных перашакрыніц, да малітвы на роднай мове. Таму ў Чырвоным касцёле кожную нядзелю ў 19 гадзін служыцца Святая Літургія за Бацькаўшчыну.

### «На пакіданне Бацькаўшчыны па ўласнай волі я гляджу як на здраду»

**– Чырвоны касцёл некалькі разоў улады планавалі ўзарваць – і ў 1930-я, і ў 1960-я. У такім суседстве – поруч з Домам савецкага ўрада – як храму ўдалося выстаяць?**

– Гэта можна кваліфікаваць толькі як Божы цуд. Тут сапраўды не жартавалі. Касцёл не падабаўся некаторым палітычным дзеячам. Але ўсё ж над намі ёсць Гасподзь Бог. Калі Эдвард Вайніловіч атрымаў ад цара ў Пецярбургу дазвол на пабудову касцёла, ён будаваўся за горадам, у кукурузе. А сёння, глядзіце, – стаіць у самым цэнтры, на галоўнай плошчы. Ён з поўным правам стаў адной з візітовак нашай сталіцы.

**– За нейкія 100 метраў ад касцёла – помнік Леніну, па распараджэнні якога руйнавалі храмы, знішчалі святароў. Як вы ставіцеся да такога суседства і ўвогуле да савецкай спадчыны на нашых вуліцах?**

– Штораз, калі іду міма помніка, то ў душы жагнаю яго. У сэнсе – Божа, ачысці і асвяці атмасферу вакол храма і ў краіне. І калі ідзе працэсія вакол храма, мы таксама молімся: Божа, ачысці і асвяці… Савецкую ідэалогію я адчуў у поўнай меры, я ведаю, што гэта такое. Што ж, такі быў час. Мы неслі свой крыж і маліліся: Госпадзі, дапамажы нам усё вытрымаць і застацца з праўдай Божай у сэрцы. Тады чыніліся шматлікія шкоды, руйнаваліся храмы, руйнаваліся душы. Але ж і сёння, паглядзіце, не ўсё ладзіцца. Столькі моладзі з'язджае на Захад! Калі б павучыцца і вярнуцца – я згодны, але ж з'язджаюць назаўсёды. А трэба быць тут, дзе твая калыска – Айчына! Заставацца і працаваць на карысць Бацькаўшчыны, сведчыць дабром, пераадольваць цяжкасці. А выехаць туды, дзе нібыта лепш, – гэта пасіўнасць і недахоп веры. Хтосьці потым захоча вярнуцца, а не будзе куды. Сёння маладым здаецца, што за акіянам цякуць малочныя рэкі з кісельнымі берагамі, але гэта да пары да часу. Пройдуць дзесяцігоддзі, задумае чалавек вярнуцца ў родныя мясціны, а месца ўжо занятае – іншымі народамі, нават ра́самі. На пакіданне сваёй Бацькаўшчыны па ўласнай волі я гляджу як на здраду. У савецкія часы выракаліся свайго пад прымусам, а сёння адмаўляюцца самахоць. Гэта недапушчальна. Трэба ўзяцца за рукі, ствараючы жывы ланцуг узаемапаразумення, і сваімі рукамі з Божай дапамогай будаваць нашу будучыню тут, на сваёй зямлі. Адродзіцца вера – заквітнее на духоўнай ніве і нацыянальная ідэя, якая аб'ядноўвае наш народ.

УРАЖАННІ

# Сэрцайка на фатаграфіі

Святочным велікодным днём я завітаў у свой родны Брэст. У гасцініцы "Эрмітаж", размешчанай ва ўтульным куточку горада, не праміную зазірнуць у галерэю, ведаючы, што там пастаянна ладзяцца выставы. Гэтым разам маім вачам адкрыліся малюнкі і мастацкія фатаграфіі. Мяне парадавалі творы абодвух жанраў. Аднак маю ўвагу захапілі фотакарціны. Не таму, што іх значна больш, чым малюнкаў. Усё проста: некалі і сам, хай сабе на аматарскім узроўні, здымаў фотаэцюды, нават і друкаваў іх у часопісе "Родная прырода" і ў газеце "Звязда". Потым сталася так, што даўнавата не бачыў фатаграфій, выстаўленых напаказ, хоць і пражываю ў сталіцы.




У гасцінічнай галерэі я затрымаўся надоўга. Уразілі гарадскія краявіды і партрэты, знятыя незнаёмым фатографам. Зачароўвала, напрыклад, фота нязмушана сур'ёзнай прыгажунькі, якой, відаць, усяго гадочкі тры ад нараджэння; лагодзіў душу начны здымак храма, з сінім небам і высокаю светлаю поўняю, абуджалі вандроўны настрой фатаграфіі старажытных заходнееўрапейскіх гатычных збудаванняў, а таксама марскія і горныя пейзажы… На маё здзіўленне, да шэрагу твораў былі прымацаваны чырвоныя папяровыя сэрцайкі, на некаторых – па тры-чатыры. "Нешта новенькае ўкараняюць землякі, – падумалася мне. – Ці сэрцайка на фатаграфіі толькі знак безумоўнай глядацкай сімпатыі?"

Натуральна, карцела даведацца пра аўтара. Здавалася, гэты чалавек абавязкова бывалы. Толькі цяпер я звярнуў увагу на мальберт, які прамінуў быў, уваходзячы ў галерэю. На ім прачытаў своеасаблівую някідкую афішку, дзякуючы якой даведаўся, што дзень афіцыйнага адкрыцця выставы – 15 красавіка. Тут жа прачытаў пра цудоўных "віноўнікаў" неардынарнай падзеі. Мастачка – Кацярына Казлова, ёй 21 год. Заканчвае факультэт лагістыкі ў Брэсцкім дзяржаўным політэхнічным універсітэце і працуе прадаўцом-кансультантам у краме. А вось як лаканічна і дасціпна падаў звесткі пра сябе фатограф: "Я – Міхальчук Данііл. Мне шаснаццаць гадоў. У дванаццаць узяў у адну руку Nikon, у другую "Зенит" – і з той пары яны заўсёды са мною. З імі бачу свет, як хачу".

Афішка паведаміла і пра выдатную ідэю Данііла Міхальчука і Кацярыны Казловай: работы, прадстаўленыя на выставе, можна набыць за дабрачынныя ахвяраванні. Сабраныя сродкі пойдуць у якасці матэрыяльнай дапамогі сям'і В.Чмель, дзе выхоўваецца пяцёра дзяцей, адно з якіх – інвалід (на фотаздымку – маці Вікторыя Чмель з усімі дзецьмі, адзін хлопчык – у інваліднай калясцы). Упадабаную работу можна будзе атрымаць 5 мая 2018 года, у дзень закрыцця выставы. Немалаважны прынцып – з рук у рукі: аўтары ўручаць свае творы тым, хто іх захоча набыць, а тыя перададуць свае дабрачынныя ахвяраванні ў рукі мнагадзетнай маме В.Чмель. Каб замовіць абраны фотаздымак або малюнак, трэба да яго прымацаваць сэрцайка, пазначыць імя і нумар тэлефона. Сума ўзносу за адну работу – ад 20 беларускіх рублёў.

У гэтай хвалюючай гісторыі прыемна здзіўляе тое, што Даніілу ўсяго шаснаццаць. Мяркуючы па якасці ягоных мастацкіх фатаграфій і па высакародным учынку, можна сказаць, што юнак адораны і сардэчны. З'явілася неадольнае жаданне пазнаёміцца з ім, пагаманіць. Мабыць, ад вялікага жадання мне пашанцавала: неўзабаве ў галерэю зайшла добра знаёмая мне Людміла. У гутарцы з ёю высветлілася: яна ведае гэтага хлопца, ён вучыцца ў СШ №20 горада Брэста, заканчвае дзясяты клас. Больш за тое, Людміле вядома, дзе ён з родзічамі рыхтуецца святкаваць Вялікдзень. Яна дала мне адрас і сказала: "Катэдж знаходзіцца за вёскай Чарнаўчыцы, каля асфальтаванай дарогі".

Дапамагло дасканалае веданне Брэсцкага раёна, яго паселішчаў і дарог: колішняя праца ў рэдакцыі газеты "Заря над Бугом" патрабавала рэгулярна калясіць па ўсіх кутках і куточках Прыбужжа. Таму да вёскі Чарнаўчыцы дабраўся даволі хутка і патрэбны асабняк знайшоў лёгка. Прыветлівыя маладыя гаспадары Дзяніс і Вольга сабралі сваіх родзічаў, з якімі разам прыехаў і герой майго расповеду Данііл Міхальчук.

У святочным застоллі я аказаўся сваім чалавекам, па сутнасці, ганаровым госцем: хто друкуецца ў "Народнай Волі", тых яе падпісчыкі-чытачы шануюць. За раскладным сталом айчыннай вытворчасці, які перасёк усю прасторную святліцу, мяне "прытулілі" поруч з мамай Данііла Ірынай, а ён сам сядзеў якраз насупраць. Добрае ўражанне ад творчасці юнака падмацавалася яго чалавечымі якасцямі: ён шчыры, прыязны, добразычлівы, інтэлігентны сумоўца, словам, выхаваны малады чалавек. Змалку шмат чым захапляўся, напрыклад, некаторымі відамі спорту (бейсболам, картынгам), а больш сур'ёзна – музыкай. Упадабаў ударныя інструменты – бубен, ксілафон; наведваў музычную школу.

– А калі і як з'явілася жаданне фатаграфаваць? – пытаюся я. – Пэўна, быў нейкі штуршок да такой дзейнасці?

– Гэтая радасць прыйшла пазней, гадоў з дзесяці-адзінаццаці, – адказвае хлопец. – Першыя кадры з'явіліся на мабільніку. Штуршком, мабыць, была ўвага блізкіх. Першы апарат у якасці падарунка атрымаў ад хроснай. Такія апараты ў народзе называюць "мыльніцамі". Далейшы досвед атрымаў дзякуючы люстраному фотаапарату Nikon D 3100, падоранаму бацькамі, і плёначнаму – "Зенит 122".

Вядома, у плёначнага апарата ёсць свае перавагі перад лічбавым, хоць ён і патрабуе лішняга клопату пра плёнку. Але добра, калі валодаеш і карыстаешся абодвума. Спалучэнне двух фотаапаратаў дазволіла юнаку інтэнсіўна папрацаваць, рыхтуючыся да выставы.

Я запытаўся ў Данііла, у якой заходнееўрапейскай краіне ён зрабіў паасобныя здымкі.

– Гэта ў Баварыі, куды мы, беларускія школьнікі, восенню ездзім на практыку, бо ў нас замежная мова – нямецкая. А да нас – адпаведна – вясною прыязджаюць вучні адтуль, яны ўдасканальваюць у нас сваю замежную – рускую, – патлумачыў мой суразмоўца. – У вольны час я ў Нямеччыне таксама фатаграфую.

Паколькі не за гарамі той час, калі Данііл Міхальчук атрымае атэстат сталасці, узнікае пытанне, з якой прафесіяй ён мяркуе звязаць свой лёс.

– Да канца не вызначыўся, – такі быў адказ.

І гэта натуральна, калі ўлічыць, што з вучобай у хлопца ўсё ладзіцца. Значыць, выбар можа быць багаты. І яшчэ: у яго, як сказалі родзічы, добры голас. Ён спявае ў царкоўным дзіцяча-юнацкім хоры.

Напрошвалася пытанне і пра далейшае яго ўдасканальванне ў фотасправе.

– Буду развіваць свае здольнасці, вучыцца ў знаных майстроў, павышаць сваё майстэрства, – сказаў Данііл. – Мару з цягам часу набыць самы дасканалы фотаапарат. За справу трэба брацца так, каб выходзілі ўзрушальныя фотаздымкі.

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

ВІНШУЕМ!

# Беларускія тэнісісткі перамаглі!

*У мінулую нядзелю сталічная "Чыжоўка-Арэна" трыумфавала, калі агульны лік матча са славацкімі тэнісісткамі стаў 3:2 на карысць зборнай Беларусі. Ма-лай-цы Аляксандра Сасновіч, Арына Сабаленка, Вера Лапко і Лідзія Марозава! Віншуем!*








З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Славацкія ўніверсітэты Эдуарда Занкаўца

*Вядомы беларускі хакейны спецыяліст распавёў пра сваё жыццё Славакіі і зрабіў прагноз на чэмпіянат свету, які стартуе праз некалькі тыдняў.*



Апошні сезон Эдуард Занкавец працаваў галоўным трэнерам славацкага "Слована", які ў першынстве КХЛ выступіў, мякка будзе сказана, не вельмі ўдала. Ва ўсялякім выпадку, "поспехам" перадапошняе месца ў турнірнай табліцы ніяк не назавеш. І тым не менш трэнер задаволены сваёй працай…

– Так, вынік не той, які хацелася б бачыць і балельшчыкам, і настаўнікам, але ёсць суб'ектыўныя фактары, якія паўплывалі на гэта. З-за іх складана было разлічваць на тое, што каманда патрапіць у плэй-оф.

**– А што за фактары? Адсутнасць грошай?**

– Па ходзе сезона не ўдалося ўзмацніцца ігракамі, хаця гэта было жыццёва неабходна. Але бюджэт у клуба абмежаваны, таму сродкаў на набыццё новых хакеістаў не ўдалося знайсці. Акрамя таго, шмат ігракоў у камандзе былі альбо пасля сур'ёзных траўм, альбо з траўмамі, і падчас чэмпіянату яны так і не змаглі выйсці на нармальны ўзровень.

Дадам яшчэ, што каманда збіралася ў апошні момант, за некалькі дзён да старту першынства яшчэ не быў вядомы поўны склад. Увогуле, падрыхтоўкі да сезона, па сутнасці, не было. У выніку атрымалі тое, што атрымалі. Але дзеля вопыту і будучых перамог трэба прайсці і такія ўніверсітэты.

**– Хто асноўны спонсар клуба?**

– Не магу дакладна сказаць, але ведаю, што ў наступным сезоне фінансаваць "Слован" будзе досыць салідная расійская кампанія – "Газпром экспорт".

Увогуле, "Слован" – цалкам прыватны клуб, і яго асноўная крыніца прыбытку – спонсарскія грошы, рэклама і продаж абанементаў. У клуба вельмі багатая гісторыя і неверагодна адданыя балельшчыкі. Нават калі прайгравалі, нас падтрымлівалі практычна заўсёды. Тым больш на дамашняй арэне гулялі добра, таму аншлагі былі нават тады, калі ўжо стала зразумела, што ў каманды няма ніякіх шанцаў, каб патрапіць у плэй-оф.

**– Пасля паражэнняў асабіста вам даставалася на арэхі ад мясцовых крытыкаў?**

– Я больш падтрымку адчуваў, чым крытыку.

**– Увогуле, ці прагрэсіруе славацкі хакей?**

– Ведаеце, я наведваў шмат матчаў чэмпіянату Славакіі, і мне спадабаўся яго ўзровень. На маю думку, нацыянальнае першынство там прагрэсіруе, і балельшчыкі гэта ацанілі – народ прыходзіць на гульні.

**– У бытавым плане праблем не было?**

– Клуб прадаставіў мне службовыя кватэру і машыну, даў заробак, таму якія яшчэ праблемы?

**– Наколькі я ведаю, сям'я таксама да вас пераехала ў Браціславу…**

– Такое рашэнне было прынята на сямейным савеце. У гэтым годзе наша дачка пайшла ў першы клас і пачынала вучыцца ў Мінску, але затым усё-такі было вырашана пераехаць у Славакію.

**– У Браціславе працягвала вучобу?**

– Так, знайшлі ў горадзе прыватную руска-славацкую школу, так што праблем з навучаннем не было. Не ведаю, як у першы год ацэньваць узровень ведаў і здольнасцяў, але адно магу сказаць дакладна: малюе яна проста цудоўна! Дарэчы, пасля таго як скончыўся хакейны сезон і мы вярнуліся ў Мінск, дачка зноў пайшла ў тую школу, дзе вучылася раней. Так што, як бачым, у таты свае ўніверсітэты, у яе – свае.

**– Быў у вас час паглядзець краіну?**

– Браціслава – цудоўны горад з прыгожым гістарычным цэнтрам, а вось адмыслова праехацца па Славакіі як турысту не ўдалося. Да слова, калі ведаеш беларускую мову, то вельмі проста разумець славакаў. Нашы мовы даволі падобныя.

**– Вы застаяцеся на пасадзе галоўнага трэнера "Слована" альбо кантракт з вамі скасавалі?**

– Пакуль размова ідзе аб працягу супрацоўніцтва, але зараз узгадняюцца розныя тэхнічныя моманты, таму я ў чаканні.

**– На пачатку мая ў Даніі стартуе чэмпіянат свету, і беларуская зборная аказалася на групавым этапе менавіта са славакамі. Як ацэньваеце шанцы нашай каманды?**

– З групы выходзяць чатыры каманды, і тут мы маем трох безумоўных фаварытаў – зборныя Расіі, Швецыі і Чэхіі. А вось за чацвёртае месца прыкладна аднолькавыя шанцы маюць беларусы, швейцарцы, славакі і французы. Аўстрыйцы, лічу, крыху ніжэй класам.

Сёння многія каманды паказалі значны прагрэс, а таму прарыву можна чакаць ад каго заўгодна. Хто мог, скажам, дзесяць гадоў таму спрагназаваць, што на Алімпіядзе-2018 расійская зборная ў фінале ледзь пераможа немцаў, якія да гэтага "выбілі" знакамітых канадцаў?! З такім прагнозам на смех паднялі б! Але ж сёння гэта рэальны факт. Таму і на чэмпіянаце свету таксама нехта можа "выстраліць". А прыклад нямецкай зборнай – гэта пацвярджэнне таго, што любая каманда мае шанц на подзвіг. Галоўнае – ім скарыстацца.

**Алесь СІВЫ.**

ШАЙ-БУ!

# З кім гуляюць?

На хакейным чэмпіянаце свету-2018, які пройдзе з 4 па 20 мая ў Даніі, **зборная Беларусі** згуляе ў Капенгагене ў **групе "А"** з камандамі **Расіі, Швецыі, Чэхіі, Швейцарыі, Славакіі, Францыі** і **Аўстрыі**. Адзначым, што славакі будуць застрахаваны ад вылету з элітнага дывізіёна, паколькі з'яўляюцца арганізатарамі чэмпіянату свету – 2019.

Матчы **групы "В"** адбудуцца ў Хёрнінге. У гэтай групе будуць выступаць каманды **Канады, Фінляндыі, ЗША, Германіі, Нарвегіі, Латвіі, Даніі** і **Паўднёвай Карэі.**

Нагадаем, што на групавой стадыі гульні праходзяць па кругавой сістэме. Па чатыры лепшыя каманды з кожнай групы выходзяць у чвэрцьфінал. Зборныя, якія зоймуць у групах апошняе месца, пакінуць элітны дывізіён.

Дацкі хакейны саюз разлічвае, што матчы наведаюць каля 300 тысяч балельшчыкаў.

## Расклад матчаў

**4 мая.** Швецыя–Беларусь
**5 мая.** Францыя–Беларусь
**7 мая.** Беларусь–Расія
**9 мая.** Швейцарыя–Беларусь
**11 мая.** Беларусь–Чэхія
**12 мая.** Аўстрыя–Беларусь
**15 мая.** Беларусь–Славакія.

Чвэрцьфінальныя матчы пройдуць 17 мая, паўфінальныя – 19 мая. Фінальны паядынак адбудзецца 20 мая, у гэты ж дзень – матч за 3-е месца.




**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**



Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 23.04.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 010 экз. Заказ № 1397.


*www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».*